


CD
СТУДЭНЦКАЯ ДУМКА

**CD /СТУДЭНЦКАЯ ДУМКА/ #12 (96) 2003 г.**

**Заснавальнік:** грамадзкае аб'яднаньне "Задзіночаньне беларускіх студэнтаў"

**Выдавец:** рэдакцыя "Студэнцкай Думкі"

**Галоўны рэдактар**
Ірына Віданава

**Рэдактары**
Мікола Шакель /mikalaus@hotmail.com/
Сяргей Сахараў /2ss2@tut.by/

**Камэрцыйны дырэктар**
Аляксандар Казлоўскі /alex-iskander@mail.ru/
/па пытаньнях рэклямы - 8 (029) 626-69-36/

**Офіс-мэнэджэр**
Таня Гулько

**Стыль і карэктура**
Алесь Кастыка

**Дызайн** VitaminV

**Фота** А. Лянкевіч, А. Кляшчук, CD архіў

**Адрас рэдакцыі:** вул. Дарашэвіча, 4-2, 220013, г. Менск
**Тэлефон рэдакцыі:** (017) 228-62-06
**Адрасы для допісаў:** 220030, г. Менск-30, п/с 90
studumka@tut.by

**www.studumka.com**

Часопіс выходзіць з 1924 г. Зарэгістраваны ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь. Пасьведчаньне № 1296 ад 13.04.1999 г.

Меркаваньні аўтараў часопіса не заўсёды супадаюць зь меркаваньнем рэдактара і рэдакцыі. Нягледзячы на тое, што ў працэсе падрыхтоўкі нумару фактычныя зьвесткі строга кантралююцца, рэдакцыя не нясе адказнасьці за дакладнасьць апублікаванай інфармацыі, а таксама за розныя кшталту наступствы, зьвязаныя з апублікаванымі матэрыяламі.



Друкарня ТДА "НоваПрынт"
Ліцэнзія ЛП № 285, выдадзеная Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусь 28.07.1998 г.
Фармат 60x84 1/8
Папера мелаваная 90 г/м2
Падпісана ў друк 6.01.2004 г.
Замова № 560
Наклад 3300 асобнікаў
Кошт свабодны



? хочаш ведаць, калі выйдзе новы нумар і дзе яго можна знайсьці, - скінь свой мэйл на studumka@tut.by

# RED LIST

**РЭАБІЛІТУЙЦЕ НАШЫХ КУМІРАЎ**

heroes on need!

У 1987 годзе ён скраў у бойфрэнда сваёй сястры касэту "Bad" Майкла Джэксана.
У 1991 у шапіку гуказапісу на Рэспубліканскай перапісаў альбом "Dangerous" Майкла Джэксана.
І ўсё дзеля таго, каб у 2003 даведацца, што яго кумір - пэдафіл і пэдэраст.
Элеанора Язэрская мае права казаць тое, што думае. Нават не таму, што адна жанчына супраць трох мужыкоў - гэта ненармальна. Таму, што яна сама НЕнармальная. Не бабуля і не дзяўчынка, яна па-за катэгорыямі ўзросту, прыгажосьці і маралі. Куміры самі прыдумляюць гэтыя вашыя "катэгорыі". Мішэль Уэльбэк лічыць Майкла Джэксана першай сапраўднай зоркай - ён ня белы і ня чорны, не мужчына і не жанчына, ён вынайшаў сябе сам, ад лунный паходкі да нефарматнага носа. І толькі яму вырашаць, пэдафіл ён ці "нармальны".

Мы адрываемся на навагодніх вечарынках, а нашых куміраў пад шумок сьпісваюць у аналы - ня толькі гісторыі.

Але мы не прадаем сваіх герояў танна. Таму што:
а) героі не прадаюцца;
б) героі не бываюць добрыя і дрэнныя. У выключных выпадках герой бывае bad, таму што ён так сказаў;
в) героі не падобныя да іншых.
Як і ты.

**CD знойдзеш тут:**
крама **"TOM TAILOR"** (Менск, пр. Скарыны, 37, т. 288-12-44)
крама **"LEVI'S"** (Менск, пр. Скарыны, 48, т. 288-25-62)
крама **"БУНКЕР"** (Менск, вул. Казлова, 14, т. 284-93-99)
крама **"CAMELOT"** (Менск, пр. Скарыны, 44, т. 284-30-14)
крамы **"МИСТЕРИЯ ЗВУКА"** (Менск, вул. Няміга, 12, т. 289-39-30; пр. Скарыны, 52а, т. 283-23-06)
ГЦ **"ПАРКИНГ"** (Менск, вул. Куйбышава, 40, крама **"FUJIfilm"**, т. 237-30-33)
аўтобусы **"INTERCARS"** і офіс **"INTERCARS"** (Менск, вул. Гікалы, 3, т. 284-60-37, 284-60-85)
крама **"ПЕРЕХОД"** (падземны пераход каля ГУМа, т. 227-41-14)
крама **"КОМПЬЮТЕРНЫЙ МИР"** (вул. К.Чорнага, 31, т. 284-00-35)
інтэрнэт-клюб **"IPOINT"** (вул. Румянцава, 15, т. 233-97-25)
інтэрнэт-цэнтар **"Площ@дка"** (пр. Скарыны, 58-4, т. 239-38-74)
**"ЦЕНТР МОЛОДЕЖНЫХ ПУТЕШЕСТВИЙ"** (вул. Варвашэні, 17-101, т. 239-17-49)
**STAR Travel** (вул. Сурганава, 47, оф. 8, т. 232-50-28)
**ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ** (вул. Румянцава, 13, т. 284-85-11, 288-23-52)
**ГАНДЛЁВЫ ДОМ "НА НЯМІЗЕ"** (2 паверх, стэнд **RIMMEL**)
**ІНТЭРНЭТ-КАВЯРНЯ "САЮЗ-ONLINE"** (Цэнтральны дом афіцэраў, вул. Чырвонаармейская, 3, т. 226-02-79)
крама **"ПОДЗЕМКА"** (Менск, пр. Скарыны, 43, т. 288-20-36)

## ЗЬМЕСТ





# ПАЦА-ВАЦА vs. OZZY

## ХТО ТУТ ПАЦАН?

Макс Агееў

/// КОНТРАС

**Сапраўдныя пацаны не шыраюцца, не здымаюцца ў мыльных опэрах і ня румзаюць. Яны не накрываюцца чатырохколымі матацыкламі на роўным месцы. Сапраўдныя пацаны баразьняць прасторы Сусьвету на супэрмагутных касьмічных караблях і нават у тры тысячы год выглядаюць як агуркі, таму што карыстаюцца выключна кампактнымі люмінісцэнтнымі лямпамі цокальнага тыпу. Усіх астатніх мы называем проста - бабы.**

Сапраўднай бабай у портках апынуўся Озі ОЗБАРН, адзін з герояў тэлесэрыялу Osbornes, у мінулым - вакаліст вядомага гумарыстычнага ВІА "Чорны шабас" (Black Sabbath). 8 сьнежня недалужны 55-гадовы рокер разьбіўся на сваім матацыкле, катаючыся па ўласным маёнтку ў графстве Бэкінгемшыр (Вялікабрытанія). Наехаўшы на перашкоду, ён вылецеў зь сядла і на некалькі сэкундаў памяняўся месцамі са сваім чатырохколым сябрам. У выніку са зламанымі васьмю рэбрамі, левай ключыцай і шыйным пазванком ён быў дастаўлены ў шпіталь і падключаны да вэнтылятара. Нават дзеткі садаўскага ўзросту на трохколых роварах выдатна спраўляюцца з кіраваньнем. Таму здарэньне з Озбарнам цяжка кваліфікаваць як банальную бытавуху. Адно з двух: альбо Озі зноў узяўся за старое і накурыўся якой-небудзь шмалі (што само па сабе амаральна), альбо "аўтакатастрофа" - добра сплянаваны піяр новага сынглу былога рокера.

На карысьць апошняй вэрсіі сьведчыць эмацыйнае напружаньне, зь якім Озбарн сустрэў вестку пра тое, што ягоны трэк "Changes" дасягнуў верхняй пазыцыі ў калядным брытанскім гіт-парадзе. Забыўшыся на імідж паплечніка д'ябла, Озі зарумзаў, як не пацан.
ЦЫТАТА: "Озі заплакаў, даведаўшыся пра посьпех свайго сынглу. Для яго гэта ўвасабленьне мары. Ён ня мог размаўляць, але сьлёзы пацяклі" (Шэран Озбарн, жонка пацярпелага. 17 сьнежня, інтэрвію Брытанскай тэлевізіі). Але калі б Озі мог гаварыць, ужо праз 10 хвілін ягоная тырада пачалася б зь літары f*.

Справа ў тым, што з гэтай кампазыцыяй ён аўтаматычна трапіў у Кнігу рэкордаў Гінэса, паставіўшы новы сусьветны рэкорд па часе, які спатрэбіўся выканаўцу, каб дасягнуць верхняй пазыцыі ў чартах. Першы ягоны гіт - запісаная з Black Sabbath песьня "Paranoid" - у жніўні 1970 году ўзьняўся да 4-й пазыцыі. І толькі праз 33 гады вэрсія песьні Black Sabbath "Changes", запісаная на пару з дачкой Келі, нарэшце ачоліла гіт-парад.

Так злажаць мог толькі Озі. Ды і песенька ягоная так і не датрымалася да сьвятаў, шчасьліва пакінуўшы першы радок літаральна за тры дні да Калядаў. Ну, і хто ён пасьля гэтага? Сьлімак і лузэр!

Іншая справа - беларускі тэлевядучы ПАЦА-ВАЦА. Усім вядома, як цяжка ў кансэрватыўнай краіне іншаземцу стаць мэгазоркай. Іншаплянэтнік Паца-Ваца, які 10 год таму прыбыў на Зямлю з Альфамэгацэнтаўры, зрабіў гэта адразу. Увесь гэты час ягоная праграма "МультыКлюб" упэўнена трымаецца на першым месцы па папулярнасьці сярод самых маленькіх гледачоў, пакінуўшы далёка ззаду ўсялякія дыснэй-клюбы.

Упэўнена авалодаўшы абедзьвюма дзяржаўнымі мовамі, UFO не збаяўся ўжо на другім годзе сваёй зорнай кар'еры перайсьці на рускую. І тым самым стварыў добры пляцдарм для культурнай экспансіі на ўсход. А таксама пацьвердзіў старую ісьціну, на якую (гл. вышэй) замежныя зоркі часта забываюцца: будзь зразумелым - і людзі да цябе пацягнуцца.

Пазытыўны імідж Пацы-Вацы сфармаваў сьветапогляд не аднаго беларускага пакаленьня: ягоная энэргаашчадная рэкляма захапіла сэрцы мільёнаў хатніх гаспадыняў і электрыкаў краіны, а наш герой стаў нязьменным пэрсанажам дасьціпнага беларускага гумару.
ЦЫТАТА: "Як будзе па-беларуску Hey-yo mother f*cker? - Hey-yo Паца-Ваца". (Адкрытая ліга КВЗ БДУ, kvnbgu.narod.ru).

Зараз Паца-Ваца робіць шалёныя рэйтынгі маладому беларускаму каналу "Лад" і рыхтуецца 27 лютага адсьвяткаваць свой 3333-гадовы юбілей, а заадно і дзясятыя ўгодкі кар'еры тэлевядучага. Як паведамляе www.tvr.by, на конкурс фліп-флопаў "Паца-Ваца як жывы" прыйшло 2 638 лістоў за два тыдні. Адно што крыху далі маху з назвай конкурсу: ужо зараз можна сьмела казаць, што Паца-Ваца не ЯК жывы - ён жывы ВЕЧНА! І ніякія саматужныя падробкі накшталт дохлых зайцоў Бо (bo.mult.ru) з "талеркамі ў кустах пад Выбаргам" не пераплюнуць нашага беларускага супэрПАЦАна.

# 2003

**Ацаніўшы па заслугах людзей, рэчы і зьявы фармату 2003, вызначымся хаця б умоўна з героямі (ці "героямі") і гераічнымі (ці "гераічнымі") людзьмі, рэчамі і зьявамі фармату 2004. Сьпіс атрымаўся невялікім, але досыць паказальным.**

## ЛАЙФСТАЙЛ — ІНДЫЯ

Уплыў індыйскай поп-культуры на стэрыльны мозаг эўрапеоідаў перааценіць цяжка. Стаўпы моды'03 на Індыю - ёга, Пэнджабі і Балівуд. Не зразумець, як іх расстаўляць па ступені значнасьці. Але відавочна: ад пярэстасьці колераў, занадтай духмянасьці курыльных палачак і штосуботніх кіна-сьвістаплясак па "Лад-TV" пачынае расколвацца галава.

## СЭКС — БІ

"Разбэшчаныя бл*дкі выкрадкаў" - так назвалі артыкул пра пазыцыю 69 (гл. мінулы CD) некаторыя цнатлівыя чытачы. Але гэта факт: тэма пачала ратыявацца нават у Беларусі. Хто каму і як глыбока - што магло быць больш цікавым і застрашальным для абывацеляў?! Як высьветлілася, і гэта нешта ня тое...

## РЭ-ФЭЙСЫ — ДЭМІ МУР

Ужо і не ўзгадаць, якая там па званьні ў амэрыканскім войску, нарэшце яна разрадзілася новай роляй. Пляцдармам быў абраны блёкбастэр "Анёлы Чарлі". Апошняя ледзь не прыпухлі ад нахабства, спрытнасьці і фатальнай прыгажосьці бабы Дэмі ("45, 45. Баба ягадка...") - некалі самай высокааплатнай акторкі. Яна парадавала сатысфакцыяй усіх пакрыўджаных, кінутых і проста галодных на прыгожых жанчын.

## ЧЫТВО / ПЭРЫЁДЫКА — ЭРОТЫКА І ПАРНУХА

У 2003 годзе hardcore і эратычныя выданьні прадаваліся са сьвістам па ўсім сьвеце. Пытаньне "гэта эротыка ці парнуха" адыйшло на другі плян - людзі проста вывучалі па тэкстах свае і чужыя целы. Як і варта было чакаць, нічога новага яны не знайшлі. У нас тым часам прыкрылі газэтку "Клубнічка". І правільна: чым чытаць і глядзець такое, лепш ніякага...



## ІТАЛІЯ

Міжземнаморская цытадэль Рэнэсансу толькі спрабавала ў гэтым годзе стаць лайфстайл-заканадаўцам. Галіма, што Бэні Банасі і Planet Funk паддаліся на агульнаэўрапейскія правакацыі і закінулі родную італьянскую мову ў творчасьці. Але ўсё мусіць расставіць па сваіх месцах банкруцтва малочнай карпарацыі Parmalat. У іх карпаратыўных куртках хадзілі менскія моднікі ў 1979 годзе, што ня можа ня радаваць настальгуючых па дыска. Гэта іх апошняя песьня. Таму "бонджорно", Чэлентана і тэледэтэктывы катэгорыі Б. Італьянская экспрэсія і кічавасьць 1980-х вяртаецца!

## МАНАГАМІЯ

Па зьвестках сацыёлягаў, каля 80% амэрыканцаў, якія жывуць у зарэгістраваным ці грамадзянскім шлюбе, кажуць, што іх цалкам задавальняе манагамія ва ўсіх яе "позах". Ці то лянота, ці то сапраўдны страх атрымаць на "левых" франтах якую-небудзь халерыну кіруе імі, але быць побач толькі зь Ёй / Ім - гэта ня тупа "модна", а папросту бясьпечна. Пагадзіцеся, добрая нагода паспрабаваць увесь 2004 год пражыць у міры і згодзе з адным партнэрам.

## БАГЗ БАНІ

Мультыплікацыйны фрык паспрабуе рэабілітавацца перад гледачамі за шматгадовае бязьдзеяньне і плоскасьць. Новы фільм а-ля "Хто падставіў..." абяцае быць вясёленькім і вар'яцкім, у духу клясычных Loony Tunes. Ягоны пракатны лёс у ЗША таму сьведчаньне: рэжысэр Джо Дантэ, вучань караля трэшу Роджэра Кормана, зрабіў са стомільённых уліваньняў касу ў... 18 млн. І гэта ня можа ня быць крута! Рызыкоўна, але дзякуючы Багзу нарэшце абудзяцца нахабныя, бязьлітасныя і саркастычныя. А ў чым, сопстнна, праблемы, док?

## ГУМАРЫСТЫЧНЫ САМВЫДАТ

Лічба 299 магічная для актывістаў: пасьля яе пачынаецца афіцыёз і "блін, нецікава". У сфэры самвыдату безумоўнымі фаварытамі'04 могуць стаць рэанімаваныя "Навінкі". Бадай што немагчымасьць выходзіць афіцыйна дапаможа пераадолець ім творчы запор, а заадно ўзьвядзе ў ранг моднага менскага прыколу любыя спробы DIY-выданьняў.

# 2004

# THE FEICY



ФЭЙСЫ НУМАРУ

Віялета Золак

## ФРАНЦІШАК CREW

**Магчыма, іх аўдыёролік пра Максіма Мірнага некалі прызнаюць шэдэўрам. Магчыма - ніколі. Але ўжо зараз яны могуць назваць сябе народнымі абраньнікамі. Каманда "Францішак Crew", уладальнік "Гран-пры" ў намінацыі "Лепшы аўдыёролік", узяла таксама і "Прыз сымпатыяў" кампаніі "Рабі. Сябе. Сам." . Калі адкінуць дурную сьціпласьць і прызнацца, што "РСС" - падзея 2003 году, то студэнты Лінгвістычнага ўнівэрсытэту Аляксей Сянькоўскі, Юля Пратасеня, Кірыл Навіцкі (К.) і Багдан Арлоў (Б.) з каманды "Францішак Crew" - безумоўныя фэйсы году. Карэспандэнтцы CD Віялеце Золак удалося напярэдадні Калядаў вычапіць апошніх двух з пэдпрактыкі і задаць ім пару пытаньняў.**



**Чаму вы вырашылі ўзяць удзел у кампаніі "РСС"?**

**К.:** Мне хацелася проста паўдзельнічаць, паспрабаваць. Я нават не разьлічваў, што мы пройдзем.
**Б.:** Я ўбачыў у гэтым шанец. І патусавацца хацелася. Уяві: шэры тралейбус а палове на восьмую раніцы, шэрая восень, практыка ў школе штодня, дзе не забудуцца па галаве настукаць. Хочацца скіраваць сваю энэргію не на напісаньне справаздачаў па пэдпрактыцы, а на што-небудзь больш вясёлае і пазытыўнае.

**Майстар-клясы з удзелам вядомых менскіх крэатыўшчыкаў сапраўды зьмянілі вашую сьвядомасьць?**

**К.:** Бязь іх, я думаю, мы б не зрабілі тое, што зрабілі. Калі цяпер гляджу рэкляму, магу ўжо адрозьніць, дзе добрая, а дзе ня вельмі. Раней я пра гэта ня думаў, а толькі лаяўся.

**Наколькі новым і цікавым быў для вас асяродак трэнэраў на майстар-клясах: Юноў, Міцёк, Янка і Юлька?..**

**К.:** Для мяне гэта ўсё было абсалютна новым.
**Б.:** Для мяне гэта абсалютна новая сфэра. Але я б не сказаў, што гэтая сфэра - мая мара.
**К.:** Я яшчэ на другім курсе зразумеў, што хачу паступіць у Мастацкую акадэмію, так што, думаю, ніяк ня буду зьвязваць сваё жыцьцё з рэклямай і піярам.

**У мяне склалася такое ўражаньне, што на майстар-клясах з вас выціскалі як мага больш вычварную і не зразумелую народу прадукцыю. А вось амэрыканец Огілві, прызнаны ў сьвеце капірайтэр, пісаў, што пры стварэньні рэклямы зусім не абавязкова, каб спажывец прыйшоў у захапленьне ад яе крэатыўнасьці. Галоўнае, каб ён пайшоў і купіў тое, што рэклямуецца.**

**Б.:** Мэта ўсёй рэклямы - дапамагчы прадаць тавар. Дасягнуць пры гэтым нейкіх мастацкіх вяршыняў даволі складана. Тая рэкляма, якая дапамагае прадаваць тавар, будзе жыць заўсёды. Але і крэатыўная рэкляма будзе існаваць, хоць і ня так шырока, будзе ацэньвацца на розных фэстывалях.
**К.:** Большае ўражаньне на гледача ўсё роўна будзе рабіць сацыяльна скіраваная рэкляма. Вельмі лёгка замбаваць людзей камэрцыйнай рэклямай, робячы на гэтым добрыя грошы. Але сацыялка адназначна больш магутная.
**Б.:** Бо чалавек істота сацыяльная.

**А як вы ацэньваеце свой уласны ролік?**

**К.:** Вось уявіце сабе сытуацыю: едзе нейкі спартовец-пачатковец у машыне і чуе па радыё "ўдачы ўсім, у каго ёсьць мара", - пасьля выходзіць на рынг і перамагае. Мне, напрыклад, было б прыемна раніцай падняцца, пайсьці на кухню, піць гарбату і пачуць, як зычаць удачы.
**Б.:** Кожны чалавек складаецца з пазытыву і нэгатыву. Нашай мэтай было абудзіць у людзей пазытыў. Калі чалавеку па-добраму зычыш удачы, ён адразу падсаджваецца на пазытыў. Бо нэгатыў - гэта такое балота, зь якога вылезьці вельмі цяжка.
Калі чытаеш форум "РСС" (гл. www.studumka.com), падаецца, што для многіх з тых, хто ня выйшаў у паўфінал, кампанія была адзіным шанцам неяк самарэалізавацца...

**К.:** У беларусаў ёсьць адна "выдатная" рыса: калі нехта некуды не трапляе, то пачынае ўсіх ганьбіць. Яны не разумеюць, што штуршок да самарэалізацыі быў ужо тады, калі яны зарэгістраваліся.
**Б.:** Можна знайсьці прымяненьне сваім здольнасьцям і для чаго-небудзь іншага: стварыць сайт, напісаць кніжку, верш хаця б адправіць у газэту. Займацца паліваньнем бруду тупа. Лепш ужо пайсьці пабегаць па вуліцы ці піва схадзіць папіць.

**Вы перамаглі - і што цяпер?**

**Б.:** У нас ужо ёсьць партфоліё, мы засьвечаныя. Магчымасьцяў і кантактаў зьявілася значна больш.
Мы трохі знаёмыя зь людзьмі зь іншых камандаў. Яны сапраўды крэатыўныя, і калі будзе нейкая патрэба, ведаем, да каго можна зьвяртацца.
Праект скансалідаваў людзей, пазнаёміў іх, бо кожны сядзіць у сваім унівэры і ня ведае, што на другой вуліцы таксама людзі жывуць. Як з той бабкай: "А што, за Гомлем людзі ё?"

**Вы сталі знакамітымі, як абяцалі арганізатары?**

**К.:** Аднаго разу мяне нават на вуліцы пазналі.
Я ішоў са школы, і адна жанчына так на мяне паглядзела: "Гэта што, вы?"
**Б.:** У нас на факу нехта з дэканату адксэрыў артыкул з "Камсамолкі", пасьля яго павесілі каля раскладу, а нам выказалі падзяку. Прыемна. Тэлефануюць сябры, якія нават не былі ў курсе, віншуюць.

**Якія бліжэйшыя пляны?**

**Б.:** Кіно будзем здымаць пра Маладую Беларусь. Гэта будзе моладзевы мастацкі фільм пра тое, як жывуць маладыя беларусы. Сцэнар ужо ў працэсе.





# UFO у Расонах і паусюль у Беларусі

...

Валік Папляяеў

**У сьнежні мінулага году зьявіліся першыя паведамленьні, што ў вёску пад Расонамі (геаграфічную даведку не даем з прычыны амаральнасьці пытаньня) завіталі іншаплянэтнікі. У ноч зь 10 на 11 тутэйшыя бачылі незвычайны водсьвет у небе. А раніцай сярод збожжа вяскоўцы знайшлі дзіўныя сьляды: вялікае кола, 10 мэтраў у дыямэтры, вакол якого месьціліся тры меншыя. Дакладнага тлумачэньня гэтага факту дагэтуль няма. І ўжо наўрад ці будзе.**

**Вам, канечне, як і большасьці людзей, да гэтага няма ніякай справы. А ў мяне пад Расонамі лецішча. Драўляны дамок сярод мёртвых хат, гаспадары якіх шчасьліва зьехалі на могілкі.**

## НЕМАВЕДАМА ШТО У РАСОНАХ

Баба Соня выпадкова знайшла вечны спакой у хляве, куды завітала пад градусам, у лужыне экскрэмэнтаў сваёй каровы. Тую яна заўсёды песьціла як магла. А карова невыносна мычала ўсю ноч.

Старога суседа павезьлі ў Расоны, каб ампутаваць нагу - пачыналася гангрэна пасьля няўдалай апэрацыі. Той памёр, не вяртаючыся да прытомнасьці. Жонка яго пасьля гэтага на нэрвовай глебе захварэла на рак і таксама памерла праз паўгода.

Мінулай зімой піцерскі бомж, былы філёляг, які жыў насупраць (за пляшку слабаалькагольнай мікстуры ён аддаў нам раман расейца Крастоўскага "Петербургские трущобы" і сшыткі з уласнымі юнацкімі вершамі), вяртаўся з гулянкі, заваліўся ў сумёт і зьмерз.

Сына суседкі, які прыехаў да маткі дапамагчы зь сенакосам, забіла токам, калі той чыніў праводку.

Маладую дзеўку-прадаўшчыцу з бліжняй вёскі, калі тая вярталася лесам з працы, мясцовы хлопец пасек сякерай на кавалкі і там жа закапаў. Потым на скрадзеныя грошы праставляўся сябрам трое сутак, пакуль яго не скруцілі міліцыянты. "Добры хлопец, вучылішча скончыў, бацькам дапамагаў, што гэта на яго найшло?" - дзівіліся потым вясковыя бабкі.

...Характэрна, што ля вёскі, у лясным гушчары, ёсьць возера з калярытнай назвай Душагубка. Называецца яно так, бо па легендзе ў ім патанула панская дачка, якая калісьці спазнала няшчаснае каханьне, запаўшы на маладога пастуха-жабрака. Бацька-пан, дазнаўшыся пра пачуцьці дачкі, загадаў пастуха ўтапіць. Дачка не стрымалася і пайшла за каханым сьледам. Па вэрсіі вяскоўцаў, возера ня мае дна. Замест рыбы - косьці людзей і жывёлаў.

Вядома, што без паранармальных іншаплянэтных сілаў тут не абыйшлося. Закрадаецца думка, што ўвогуле іншаплянэтнікі абралі гэтую частку Расоншчыны ў якасьці зоны для сваіх экспэрымэнтаў. Як яшчэ можна растлумачыць, што ўся вёска адкідае капыты рознымі экзатычнымі спосабамі?

"Нам усё роўна па ***, - кажа мясцовая жыхарка Ганна Х., - гуманоіды ці яшчэ якая халера. Ад сьмерці не ўцячэш. Можа, у гэтым дэкадэнцкім сьветаадчуваньні, дарэчы, і ёсьць прычына майго алькагалізму".

0516 24 00




## ЛЮДЗІ-АГУРКІ

Вяскоўцам сёньня не да вершаў. Яны напалоханыя сьмяротнымі выпадкамі так, што арганізавалі начны патруль, які сядзіць у будынку старой фэрмы. Мэта, якую імкнецца дасягнуць гэтая грамадзянская ініцыятыва, мае ярка выражаны інстынктыўны пачатак. Каго патруль павінен злавіць, вяскоўцы самі ня ведаюць.
Падчас майго візыту ў вёску ў патрулі было трое: беспрацоўны Пятро Д., школьнік на вакацыях Дзяніска (год 14) і пачэсны пэнсіянэр калгасу “Чырвоны партызан”, да якога адносіцца вёска, Ёзэф Блюм.
...Мужчыны сядзяць ля вогнішча, пякуць бульбу. Гатовы Дзяніска ладзіць старэйшым касякі, Пятро пацягвае папулярную ў гэтых мясьцінах чачу з бадзюляй. Я пытаюся ў патрульшчыкаў: “Якая канчатковая мэта вашай ініцыятывы?”
Першым на пытаньне рэагуе Ёзэф Блюм:
- Канчатковая мэта нашай ініцыятывы - даць *** усім, хто будзе перашкаджаць мірнаму існаваньню жыхароў.
- А ці ня бачацца вам лягічнымі вашыя дзеяньні ў кантэксьце абвастрэньня геапалітычнай сытуацыі ва ўсім сьвеце?
Тут у размову ўступае беспрацоўны Пятро Д. Ён задаволена пацірае шурпатымі далонямі сваё галіфэ і адказвае з пачуцьцём уласнай годнасьці:
- Так, канечне, бачыцца. Увогуле, падчас глябалізацыі і абвастрэньня, як вы сказалі, геапалітычнай сытуацыі на першы плян выходзіць менавіта вось гэтае пытаньне абароны нацыянальнага субстрату ў рамках татальнага каляпсу культураў. - Задаволены стылёвай афарбоўкай свайго складаназалежнага сказу, Пятро глытае чачу.
- А як вы можаце пракамэнтаваць думку, што вёска знаходзіцца ў небясьпечнай зоне дзеяньня НЛА?
Павісае прыкрая паўза. Пятро Д. нэрвова пацірае шурпатымі далонямі сваё галіфэ, Ёзэф Блюм робіць выгляд, што нічога не пачуў, Дзяніска таксама маўчыць.
- Добра, паставім пытаньне інакай. Вы можаце дапусьціць магчымасьць таго, што пэрспэктыва іншаплянэтнай экспансіі для вашай вёскі відавочная?
Дзяніска ўстае і глядзіць на мяне абкуранымі вачыма падлетка пэрыяду полавага высьпяваньня.
- Мы - за Ірак, - кажа ён, і ўсе трое ператвараюцца ў зялёных істотаў незразумелай геамэтрычнай формы накшталт агуркоў ды бягуць у талерку, якая, замаскаваная пад камбайн, стаяла ля фэрмы.
- Ну ты бачыш, што робіцца! - Да мяне падыходзіць мужык з паляўнічай стрэльбай.- Ну, зусім ужо ***!
- А што такое? - пытаюся я недаверліва.
- Так, гуманоіды, ***! Ужо прыяжджаюць як гаспадары.
Стала зразумела, што выраз “Мы - за Ірак” быў у гуманоідаў паролем.
- Я, дарэчы, мясцовы стараста, Ёзэф Блюм.
- Пакажыце пашпарт, - прашу я.
Мужчына паказвае мне свой пашпарт.
- Прабачце. У вашай вёсцы нікому нельга давяраць.
- Я вас разумею, - кажа Ёзэф. - Мясьціны ў нас яшчэ тыя.
І тут я заўважаю, што ззаду ў Ёзэфа - вялізны зеленаваты хвост, які цягнецца за ім па зямлі. Без НЛА і тут не абыйшлося. Бедны Ёзэф.

## ЗАГОНЫ

Мала хто ведае, але Беларусь знаходзіцца ў эпіцэнтры паранармальных зьяваў. Гэтая інфармацыя, зразумела, не афішуецца. Асобныя энтузіясты дзесяцігодзьдзямі фіксуюць расповеды шматлікіх сьведкаў, сьцьверджаньні якіх ня можа растлумачыць навука, - і знаходзяць у гэтым свой жыцьцёвы кайф. Цікавых момантаў, зьвязаных з НЛА, таксама шмат.
Першая афіцыйная згадка пра незвычайны кантакт у Беларусі датаваная чэрвенем 1937 году, калі 7-гадовая Людміла Чэпік з Чашнікаў распавяла напаўвайсковай камісіі пра незвычайную істоту, якая спусьцілася зь нябёсаў без парашута. Але ад тае пары сьведчаньняў пра кантакты беларусаў з гуманоідамі не было.
Затое футуролягі прадказваюць, што ў 2010-2011 гг. нас чакае масавы візыт касьмічных прыхадняў. Чакаць засталося зусім нядоўга.

Таму трэба памятаць, што фізычны кантакт зь іншаплянэтнікам можа скончыцца сьлепатой і апёкамі, а вынікам псыхічнага ўзьдзеяньня можа стаць нават поўная страта розуму.

## No 1.

Так, дзяўчына Наталя М. аднойчы пайшла ў лес у грыбы і зьнікла на чацьвера сутак. Калі яна прыйшла дахаты, маці доўга біла дзяўчыну па твары і называла курвай. Спачатку Наталя М. спрабавала растлумачыць сваё зьнікненьне тым, што яна заблукала, спужаўшыся навальніцы. Але ніякай навальніцы не было. Потым у Наталі зьявілася вэрсія, паводле якой яна стала ахвярай іншаплянэтнікаў, што спачатку загіпнатызавалі дзяўчыну, а потым згвалцілі ўсёй талеркай. Нават калі Наталя зацяжарала, яна яшчэ спрабавала разагнаць пра тое, што, напэўна, стала ахвярай гуманоідаў-вычварэнцаў. Але потым стала вядома: дзяўчына ўвесь час правяла з камандыраванымі на балоты геадэзістамі-практыкантамі, якіх выпадкова сустрэла ў лесе. Хлопцы запрасілі дзяўчыну на ласяціну і ўжо болей не выпускалі.
Факт знаёмства з Наталяй практыканты адмовілі і сказалі, што такім шляхам дзяўчына хоча перабрацца ў сталіцу і атрымаць менскую прапіску.
Маці дзяўчыны, зразумела, страціла розум.

## No 2.

Няўдалы саракагадовы рыбак Рыгор Д. стаў сьведкам таго, як гуманоіды сьвяткавалі на адным з браслаўскіх азёраў Купальле. Для Рыгора Д. было ў навіну тое, што гуманоіды адзначаюць нашае сьвята. Па словах Рыгора, заўважыўшы яго, гуманоіды запрасілі да сябе ў кампанію, пачалі частаваць гарэлкай і нават прыгналі яму дзяўчыну. Рыгор сьцьвярджае, што дзяўчына была нашая, сапраўдная, але ні яе імя, ні зьнешняга выгляду ён ня памятае.
Пра прыгоды Рыгора Д. так бы ніхто і не даведаўся, але праз некалькі дзён ён заўважыў, што ў яго пачаў расьці другі чэлес. Недарэка быў вымушаны зьвярнуцца ў паліклініку, дзе стаў аб'ектам агульных зьдзекаў дактароў і асабліва шалёных да чужога гора журналістаў.
Хутка, зразумела, ён страціў розум.

## No 3.

Больш за паўгадзіны назіралі менчукі НЛА позьнім вечарам 10 жніўня 200? году. Адным са сьведкаў дзіўнага відовішча быў кіроўца Васіль Ц., які жыў па вуліцы Кунцаўшчына, 48. Прыблізна ў 23 гадзіны ён выйшаў на гаўбец папаліць. Вырубіў сьвятло, і тут у вочы яму ўрэзаліся дзьве вузенькія палосачкі сьвятла. Яны былі аранжавыя. У матавым сьвятле было відаць край хмары, наверх “глядзеў” шырокі белы прамень. Побач з палоскамі зьявілася невялічкая белая сфэра. Гаспадар сказаў пра гэта жонцы, і тая папярэдзіла яго: “Не глядзі!” Тады Васіль адпіхнуў жонку, якая ўжо пачала галасіць, і працягваў назіраць. Шар зьнік з поля зроку, палоскі пашырыліся, сьвятло стала аранжавым. Але раптам у хмарах пачаў вымалёўвацца дакладны абрыс аб'екта ярка-цаглянага колеру, значна большага за Месяц, у форме паўэліпсу зь цёмнай плямай. Аб'ект расплыўся і цалкам зьнік, а праз хвілін пяць зьявіўся і засьвяціўся як вугельчык прадмет у форме поўнага эліпсу. Прайшло яшчэ некалькі хвілін, і НЛА зьнік. На гадзіньніку было 23:30.
А палове на першую ночы Васіль прачнуўся ад уласнага крыку. Стан яго быў жахлівым: кружылася галава, перасохла ў роце. І яшчэ дзіўным было тое, што жонка, заўсёды не да месца чуткая ў сне, спала як забітая...
Цешча Васіля пасьля гэтага выпадку страціла розум, але суседзі кажуць, што гэта проста супадзеньне - яна зь дзяцінства была такая.

Такім чынам на пытаньне, ці памыюць калі-небудзь яйкагаловыя марсіяне ногі ў Сьвіслачы, адказаць адназначна немагчыма. Будзем спадзявацца. Ці ж дарэмна яе чысьцілі?



# ТРЫ ХВІЛІНЫ РАДАСЬЦІ...

## МАСТУРБАЦЫЯ ФОРЭВА!

Віялета Золак, Андрэас Копыс, Слава Скугарэўскі

**Яна прыплюшчвае вочы, адкідае галаву. Рука пачынае рухацца больш інтэнсіўна, дыханьне пачашчаецца, твар чырванее, фантазіі робяцца дзікімі і сьмелымі. "Ён падыходзіць ззаду. Прыціскаецца. Прымае валасы з шыі. Ягоны язык лашчыць мочку вуха. Другая яго рука масіруе грудзі. Апускаецца да вільготнага пупка і казытае яго. Потым сьлізгае ніжэй, яшчэ ніжэй, яшчэ, яшчэ, я-а-а-а-а-ах!" Здушаны крык заглушаецца шумам вады, якая ліецца ў ванну з шалёнай хуткасьцю і падмацоўвае кайф яе аргазму. Празь некалькі хвілін, расслабленая і самазадаволеная, яна прыдумляе мэлёдыю allegro на народнае: "Ізноў вясна, ізноў грачы, ізноў ня дасьць, ізноў драчы".**

Праз сытуацыю, калі рука - стройная бляндынка ці двухмэтровы атлет, праходзіў кожны нармальны чалавек. І ня толькі ў пубэртатным узросьце. Хаця ў сьвядомасьці большасьці менавіта "падлетак" і "ананізм" - непарыўна зьвязаныя паняткі. Лічыцца, што юныя дамы і кавалеры мастурбуюць, каб выпусьціць сэксуальную "пару". Аднак сэксолягі кажуць, што такое сьцьверджаньне справядлівае толькі для хлопцаў. Гэта яны ў пераходным узросьце адольваюцца бурнымі сэксуальнымі пажадамі і фантазіямі. Ананізм для іх - свайго роду "замяшчальная тэрапія", якая дапамагае навучыцца ўсяму, што неабходна для будучых сэксуальных адносінаў. У дзяўчат сталеньне адбываецца больш мякка, больш плятанічна, і ананізм для іх - гульня на ўзроўні інтуіцыі.

### АНАНІСТЫЧНЫЯ ГІСТОРЫІ

Як гэта часта здараецца, самую строгую забарону на мастурбацыю ўвяла царква. Менавіта са Сьвятога пісаньня прыйшоў тэрмін "ананізм". Паводле першакрыніцы, мужычок Анан замест таго, каб апладніць удавіцу свайго брата, праліў семя на зямлю. Саграшыў - за гэта Бог і пакараў яго сьмерцю. Такім чынам, ананізм трапіў у топ-ліст галоўных чалавечых грахоў. Цягам стагодзьдзяў мастурбацыя лічылася вялікім грахом, і шмат заганаў чалавечых зь ёю зьвязвалі.
Напрыклад, у Сярэднявеччы ананізм прыраўноўвалі да душэўных і фізычных немачаў. Рацыя ў гэтым безумоўна ёсьць, бо прырода чалавека такая - хутка і надоўга падсесьці на радасьці. Тым больш плоцкія.
Часта даходзіла да ідыёцтва: любы малады чалавек, бледны, зь сіньню пад вачыма ад бясконцага затурканьня бацькамі і царквою, прызнаваўся за ананіста. І супраць "рукаблуда" прымаліся адпаведныя захады - ці то маральнага кшталту, ці то фізычнага.
Ахвотныя да ўсеагульнага кантролю над "паствай" клерыкі і дзяржаўнікі аж да 20 стагодзьдзя ўпарта прадказвалі ананістам хуткую сьмерць ад зьнясіленьня мазгоў. Спэрма ў тыя часы "выпрацоўвалася ў мозгу". Таму можна толькі здагадвацца, як часта драчылі тыя, хто высунуў т акую тэорыю, - у іх мазгоў толькі і хапала на такую фігню. Тым ня менш, ананістаў перасьледавалі, саджалі ў дамы для псыхічна хворых, прымушалі насіць на геніталіях прылады, што нагадваюць шчамлёткі. Тэолягі дагэтуль адносяць мастурбацыю да "прамежкавых" грахоў. Гэта значыць, што мастурбацыя прыводзіць да больш сур'ёзных правінаў. Вядомы каталіцкі сьвяты Тамаш Аквінскі лічыў, што мастурбацыя горшая за прастытуцыю. Паводле каталіцкага сэксоляга Кінгі Вісьнеўскай-Рашкоўскай, ананізм распаўсюджаны сярод моладзі, бо ёй бракуе належнага сэксуальнага выхаваньня. У хрысьціянскіх моладзевых часопісах за мяжой можна часта сустрэць артыкулы, дзе аўтары пішуць пра тое, што мастурбацыя сталася для іх пасткай, выбрацца зь якой запатрабавала шмат намаганьняў і часу. "Ананізм зьнішчыў маю псыхіку і мае эмоцыі… Да сёньняшняга дня бачу свае раны" (на якім месцы?), "Зло хутка разьвівалася ўва мне. Я быў ім зьвязаны псыхічна і эмацыйна… Тады мастурбацыя была маёй найлепшай сяброўкай".

### БЕЛАРУСКАЯ МАСТУРБАЦЫЯ

Сусьветная практыка адназначна сьцьвярджае: пры нагодзе мастурбуе ад 60 да 90% грамадзянаў. Пра тое самае ўскосна сьведчаць нефармальныя апытаньні кшталту таго, якое ладзілася калісьці на адным зь беларускіх чатаў. На пытаньне "Ці маеце Вы што-небудзь супраць ананізму?" адказы былі наступныя:
Я супраць - 5 %
Я за… 80 %
Я - за, аднак мне няма калі гэтым займацца - 8%
Пайду спытаю ў мамы, што гэта такое - 7%

Падчас нашага ўласнага апытаньня на гэтую тэму старшаклясьнікаў і студэнтаў чаканьні пацьвердзіліся - большасьць разглядае мастурбацыю як нармальны фізіялягічны працэс.
На сакрамэнтальнае пытаньне ўсіх часоў і народаў "Ці можа мастурбацыя нанесьці шкоду фізічнаму альбо псыхічнаму здароўю?" адказы вар'іраваліся ад "Хутчэй псыхічнаму, бо разьвівае крытычнае стаўленьне да сваёй асобы" і "Усё гэта фігня - дроч назаўсёды!" (Андрэй, 23 гады) да "Мастурбацыя - гэта праява хворай псыхікі, вычварэньне, прыдуманае нездаровымі людзьмі" (Сьвятлана, 20 год).
Сэксолягі кажуць, што сапраўды адной зь небясьпекаў ананізму ёсьць завышаныя патрабаваньні да партнэра, якія часам могуць азмрочваць парны сэкс. І калі мастурбацыя замяняе сэкс, што ня так рэдка здараецца, то нічым добрым усё гэта скончыцца ня можа.
"Займайцеся гэтым на здароўе, але на супрацьлеглы пол не забывайцеся! - кажа Лёша, 22 гады. - А то сустракаеш дзяўчат "навошта мне, маўляў, мужчына, калі я ўсё ўмею сама і раблю гэта лепш?"
Па вялікім рахунку, мастурбацыя - гэта таксама паўнацэнны сэкс. Аргазм жа сапраўдны, а не фальшывы. Адзінае, што дзеліш яго з самім сабой. Таму на фаменкаўскі жарт "Сэкс безь дзяўчыны - прыкмета дурачыны" можна сьмела забіць. Любы мужчына пры жаданьні можа ўзгадаць, калі ён ад самога сябе кончыў так, як не канчаў дагэтуль ні з адной дзяўчынай. Зноў-ткі прамаўчым пра дзяўчын: часам складаецца ўражаньне, што пра жаночы аргазм пацаны толькі чыталі.

## Х.. І МОРКАЎКА

Пытаньне "Ці можа чалавек займацца мастурбацыяй і жыць полавым жыцьцём" не такое ўжо і дурное. Валянціна, якая пабралася шлюбам са сваім хлопцам пасьля бурнага раману, з жахам узгадвае, як аднойчы засьпела 25-гадовага абраньніка ў іх ванным пакоі. Той драчыў над сьвежанькім нумарам "Хастлера".
"Я ледзь не звар'яцела. А яго рэакцыя была больш чым спакойная: ён з годнасьцю кончыў, пасьля прыйшоў на кухню, дзе я білася ў гістэрыцы, і папулярна патлумачыў, што "гэта" ў прыбіральні - ня здрада, а спроба застацца ва ўлоньні сям'і".
Самае цікавае, што пасьля гэтай размовы маладая пара шчыра паразмаўляла, хто чаго хоча ад сэксуальнага жыцьця, і з таго моманту "я цябе кахаю" гучала ў сямейным ложку штоночы па некалькі разоў.
23-гадовая Юлія наадварот прыйшла да шчасьлівага сямейнага жыцьця праз васьмігадовую "сола"-мастурбацыю. "Да 21 году ў мяне не было ніводнага мужчыны - яны не былі мне патрэбныя, бо я задавальняла сябе сама. У 22 у мяне зьявіўся сябар. У нас былі вельмі добрыя адносіны, але я баялася яму даверыцца цалкам. Папросту выбірала. Мой новы сябар быў супэр: я патлумачыла яму сытуацыю, і мы зь ім сталі займацца пэтынгам. Такім чынам, я таксама атрымлівала задавальненьне, і большага мне не было патрэбна. Да нейкага моманту, калі зразумела, што магу яму цалкам давяраць. Зараз мы займаемся сэксам, і я атрымліваю агромністае задавальненьне".



## "ТРЫ ХВІЛІНЫ РАДАСЬЦІ...

...поўны кулак гадасьці". Такі варыянт абсалютна натуральны - кожны займаецца тым, што яму даспадобы. Зусім іншая гаворка, калі вядзецца пра вычварэньні на глебе ананізму.
Юля В., студэнтка 2 курсу пэдунівэрсытэту, чыя псыхіка год таму ледзь-ледзь атабарылася ў шалёным рытме студэнцкага жыцьця, першакурсьніцай перажыла сапраўдны шок.
"Нейк я спазьнілася на пару. Іду па пустым калідоры. Раптам бачу ля акна мужчыну. Стаіць, дрочыць. І назірае за маёй рэакцыяй. Я спужалася, абыйшла яго і пабегла. Ён - за мной. Я ў дэканат. Там выкладчыца: "Што здарылася?" "Там!"- толькі і змагла сказаць я і паказала на дзьверы. Яна выбегла, а мужык ужо перад самымі дзьвярыма. І порткі ягоныя ў спэрме. "Ах ты, гад! Каб ён у цябе адваліўся, адсох! Зараз міліцыю выклічу!" "Трасун" схамянуўся, упіхнуў сваё "дабро" ў штаны, павярнуўся і пайшоў. "А ты, - сказала мне выкладчыца, - ніколі такіх дурняў ня бойся. Мацюгай як можаш, яны гэтага ня любяць. Галоўнае - не пужайся!"
Але ж вы разумееце, што такія выпадкі - выключэньне. Таму казаць, што пастаянная мастурбацыя - наўпроставы шлях да "зрухаў па фазе", - тое самае, што сьцьвярджаць "пастаянныя заняткі сэксам - прамая дарожка да хваробы Чакацілы".

## І НІЯКАЯ МАСТУРБАЦЫІ

Ясна, можна і не мастурбаваць. Цалкам верагодна, што меў рацыю нейкі француз: "Дазвольце імкненьню да задавальненьняў цалкам падпарадкаваць жыцьцё цела і духу, і яно заб'е вас".
Тым жа, хто вырашыў "завязаць" аднойчы і назаўсёды, параім скарыстацца парадамі актывістаў руху "Амэрыканцы за чысьціню". Тыя забамбілі экшн "Абсалютная чысьціня", скіраваны на поўнае зьнішчэньне мастурбацыі ў Амэрыцы да 2005 году. Іх лёзунг - "Пераможам у вайне з мастурбацыяй!".
Сярод найбольш дзейсных мэтадаў барацьбы з анінізмам прапануецца кантраляваць вытворчасьць адмысловых прыладаў: "забараніць вібратары і іншыя прылады для мастурбацыі (што ўжо зроблена ў Тэхасе)", а спадручныя сродкі - сасіскі, каўбасы, кукурузу etc. - прадаваць нашынкаванымі. Бацькам раяць прыглядаць за "чадамі". Сярод прышчоў, бясконцай прыгнечанасьці, імкненьня заставацца ў самоце і сьлядоў спэрмы на ніжняй бялізьне найбольш страшныя - "музыка ў стылі рок", "лібэральныя палітычныя погляды", "модніцтва" і, нарэшце, "адмаўленьне факту мастурбацыі".
Таму "здыміце дзьверы, што вядуць у спальню. Правярайце, што вашае дзіця чытае. Уставайце першым і выразайце з газэтаў рэкляму ніжняй бялізны (абрэзкі паліце). Любое слэнгавае слова падазронае і можа азначаць мастурбацыю. Апранайце дзецям баксэрскія пальчаткі, калі яны кладуцца спаць. Будзьце напагатове!"





# За крэатыў

!!!

Макс Агееў, Алена Рагель

**У адной маленькай краіне, на ўскрайку спальнага раёну жыў хлопчык Коля Какашкін са сваімі мамай і татам. Сярэдняга росту, сярэдняга розуму, сярэдняга дастатку.**
**Па апошнім пункце ня выключаныя і больш сур'ёзныя праблемы.**
**Хадзіў ва ўнівэр, сядзеў амаль усе пары, потым ішоў у бібліятэку, гартаў нейкую заныдзганую кніжку, а ўвечары скардзіўся бацькам, як цяжка маладым прабівацца ў жыцьці. І, карыстаючыся ныцьцём, страсаў зь іх капейкі на таннае пойла і цыгарэты. Тым часам ягоны аднакурсьнік Вася Цукеркін самастойна здымаў кватэру ў цэнтры, дазваляў сабе "Kent" і "Tuborg" ды, па дабрыні душэўнай, спрабаваў калі-нікалі тлумачыць Каляну, што залатая рыбка сама ні да каго ў ложак ня скача. Пасьля гэткіх размоваў Коля доўга думаў над сэнсам быцьця, але ўрэшце прыходзіў да высновы, што па жыцьці яму проста не шанцуе - ня там нарадзіўся, не туды паступіў... Дзякуй Богу, не адзін такі.**

Невясёлая казка зь лёгка прагназуемым фіналам накшталт "так і зьелі калабка". Але калі бацькі табе ў дзяцінстве не патлумачылі, што такое добра і што такое дрэнна, - слухай сюды. Дрэнна з ранку да вечара валяцца на канапе і гвалціць пульт ад тэлека. Добра цягнуць сябе за каўнер туды, дзе больш за ўсё хочацца апынуцца. Калі ў нас, маладых і прыгожых, мала грошай і часу - гэта нармальна, але калі не хапае амбіцыяў ламацца ў патрэбныя нам дзьверы - гэта дыягназ.

Забі на інстынкт самазахаваньня. Страх перад рызыкай сапсаваў жыцьцё не аднаму чалавеку. Навошта выпускаць з рук тое, што ўжо ёсьць: які-ніякі, а інстытут, хоць 40 000, але ж стыпэндыя. Тое самае датычыцца дрэннага месца працы, надакучлівага бойфрэнда, няўдалай прычоскі. Чым ты маладзейшы, тым большае маеш права карэктаваць сваё жыцьцё. Пакуль яно не скарэктавала цябе.

Рабі па-свойму. У цябе самога шмат знаёмых, якія ўжо на першым курсе зразумелі, што выбраная прафэсія перакрыжоўваецца зь іхнімі інтарэсамі, як дзьве паралельныя прамыя. Упэўніўшыся ў гэтым, большасьць элемэнтарна забівае на вучобу, нават ня думаючы штосьці мяняць. Спадзяемся на звыклае "абы корка", а хутчэй за ўсё баімся адыйсьці ад Генэральнай Лініі Партыі: школа - унівэр - разьмеркаваньне - праца - пэнсія (па магчымасьці) - магілка (абавязкова). Але нават у ідэальнай матрыцы бываюць збоі. Звычайная дзяўчынка Каця аднойчы задумалася, чаму гэта яна вучыцца ў Лінгвістычным унівэрсытэце, калі ўсё жыцьцё марыла быць дызайнэрам? Задумалася і ўспомніла, што яе маці ў свой час так і не змагла паступіць у "ін'яз", а таму з маленства для Каці была адна дарога - у перакладчыкі. Кацюха, дзеўка з характарам, пасьля трэцяга курсу больш у Лінгвістычны не пайшла, а паступіла ў Акадэмію мастацтваў. "Насамрэч усё было ня так проста. Нават сябры зьдзіўляліся майму рашэньню: ненармальная, жыла б сабе спакойна! Затое цяпер многія з зайздрасьцю зазначаюць, што мне шанцуе: займаюся любімай справай і яшчэ грошы за гэта атрымліваю".

Шукай ідэю. Ну, давай крыху паныем яшчэ. Канечне, добра Каці (Васю, Машы), яна ведае, чаго хоча. А тут куды ні сунься... ОК. Калі ня ведаеш, чым заняцца, займіся пошукам Ідэі. Знайдзі свой самы вялікі талент і распрацуй небанальны плян яго рэалізацыі. Скажам, ты зьбіраеш піўныя коркі (а твая маман паціху разьбірае завалы). Чаму б табе не дамовіцца зь якой-небудзь мастацкай галерэяй і не правесьці пэрформанс - проста ў сябе ў двары скласьці з гэтых коркаў скульптуру? З падачы галерэі хоць тры журналісты, але прыйдуць (у Менску заўсёды знойдуцца тры журналісты, якім няма чаго рабіць). З трох два напішуць артыкулы, адзін зь якіх прапусьціць рэдактар. Такім чынам, ты робіш першы крок да званьня культавага мастака-пэрформэра.

Тое самае: хлопчык Ваня вельмі любіў поўзаць па дахах, дрэвах і каналізацыях. Так у Менску зьявілася гульня "Схватка". Істотна: Ваня нядоўга ламаў галаву над сваёй ідэяй - ён узяў яе з галівудзкага кіно з такой самай назвай і "творча перапрацаваў". Творча перапрацаваць можна ўсё, нават самае вялікае г*.





**Арыентуйся на мясцовасьці.** Вазьмі ідэю, якую ў Беларусі яшчэ ніхто ня "круціць". Паспрабуй перасадзіць яе на мясцовую глебу. Прыемна назіраць, як у Менску зьяўляюцца "эксклюзівы", даўно вядомыя ва ўсім астатнім сьвеце. Нядаўна на прыпынках разьвешалі аб'явы: новая паслуга, "рэкляма на небе". Тое, што ў Парыжы практыкавалася яшчэ ў 98-м - лязэрная праекцыя рэклямных аб'яваў на начное неба, - нарэшце зьявілася і тут. На некаторы час група таварышаў атрымала, як кажуць эканамісты, унікальны рэсурс. Лохамі будуць, калі не разбагацеюць.

"Пазычыць" ідэю - справа добрая. Бяз жартаў. Мы шчыра радаваліся, калі пабачылі новы сайт адной беларускай газэты, які вонкава і функцыянальна нагадвае партал Christian Science Monitor. А) Ня самы благі прыклад для перайманьня. Б) Перанята крэатыўна, у "нашых" свая спэцыфіка, свае плюсы і мінусы.
У выніку маем новы прадукт, які, гіпатэтычна, па сваіх якасьцях не саступае найлепшым узорам.
Гэта называецца зьлізаць граматна. Як пазычаць няграматна - ты ведаеш. Гэта завецца "атакай клонаў": "Джынс" і "Джаз", "Схватка" і "Охота"...



**Лепей кампаніяй.** Калі ты не выключаеш, што сьвет створаны менавіта для цябе, успомні: навокал яшчэ шмат такіх жа яркіх, таленавітых і разумных гультаёў. Растлумач ім, што сёньня модна быць актыўным, моцным і ўпартым. Стань для іх маленькім Мао. Іхныя мазгі могуць працаваць лепш за твае, іх трэба проста разагнаць, як разганяюць працэсары. Да таго ж, кампанія - гэта карысныя знаёмствы. Падумай, хто і як можа табе дапамагчы. Калі ты ўсё яшчэ марыш склеіць зь піўных коркаў статую Свабоды, варта пашукаць у сваім акружэньні некага, у каго знаёмыя працуюць у галерэях, газэтах, на TV...

**Пад ключ.** У Эўропе працуюць некалькі правайдэраў мабільнай сувязі, якія прадастаўляюць свае паслугі БЯСПЛАТНА (тарыф "Бясплатны"... гучыць?). З маленькай агаворкай: кожныя 10 сэкундаў размовы ты чуеш рэклямны джынгл. Цяпер уяві: прыходзіш ты, пан Цукеркін, з гэтай ідэяй да гендырэктара кампаніі Velcom. Хутчэй за ўсё, ён цябе адправіць туды, адкуль яшчэ ніхто не вяртаўся, бо далекавата. Сцэнар нумар два. На поўным сур'ёзе заганяеш гэтую лухту сваім сябрам, ствараеце крэатыўную каманду, разьбіваеце задачы. Першы зьбірае інфармацыю пра такіх правайдэраў: кліенты, рэйтынгі, абарот і г.д. Другі вылічвае мэтавую аўдыторыю тарыфу: трэба раскапаць зьвесткі, які грамадзкі сэгмэнт больш за ўсё ня любіць плаціць за тэлефон (у каго найчасьцей мінус на рахунку). Зрабіць гэта можна праз знаёмых, што працуюць у офісе якой-небудзь мабільнай кампаніі. Хутчэй за ўсё большасьць "неплацельшчыкаў" будуць маладыя людзі, у асноўным студэнты. Тут уключаешся ў справу ты і, як самы талковы, прадумваеш стратэгію кампаніі: хто павінен рэклямавацца праз мабілы і як іх у гэтым зацікавіць. Складаеш сьпіс магчымых кліентаў, пралічваеш патэнцыйныя паступленьні ад рэклямы, параўноўваеш іх з выдаткамі. Калі гіпатэтычна ты не апынуўся ў мінусе, застаецца апошні штрых: расьпісаць склад і функцыі аддзелу, занятага ў праекце "Тарыф Бясплатны", раздрукаваць усе дыяграмы, разьлікі і табліцы, паставіць свой copyright, скласьці ўсё гэтае дабро ў тэчку і ісьці да таго ж дырэктара з падрабязным плянам новага тарыфу. Натуральна, цябе пашлюць. Адназначна - ужо ня так далёка. Але, магчыма, празь некаторы час адклічуць назад для дадатковага сумоўя.

**Сьвяціся.** Канечне, гэта ідэальны варыянт. Амаль кожны малады чалавек на сваёй скуры адчуў: знайсьці штосьці вартае бяз досьведу працы ў нашай краіне амаль немагчыма. Але з адной агаворкай: у гэтае "амаль" упісваюцца насамрэч нестандартныя і нахабныя Цукеркіны. Адзін цяпер ужо даволі вядомы дыджэй, каб уладкавацца на працу, цэлы год надакучваў свайму сёньняшняму кіраўніцтву. "Спачатку я нахабна адчыніў дзьверы і сказаў: гэй, зірніце, які я клясны! Мне папулярна патлумачылі, што гэткіх жа на кожным кроку як сабак. Але я прыйшоў яшчэ раз, і яшчэ... Напэўна, ім проста надакучыла, і мне ўсё ж прапанавалі такую-сякую працу. Грошы сьмешныя, часу займала дафіга. Але ж не дарэмна я столькі хадзіў. Гэта ўжо стала справай гонару.
Праз год майго неймавернага нахабства мне даверылі першы начны этэр. Менавіта тады я і зразумеў, што немагчымага няма".

Паводле Энгельса, праца ператварыла малпу ў чалавека. Законы эвалюцыі дагэтуль ня вывучаныя дасканала: цалкам магчыма, пасіўнасьць ды аморфнасьць могуць павярнуць гісторыю назад. І аднойчы ранкам зь люстэрка на цябе зірне ня звыклы сымпатычны тварык, а забаўная гэткая пыска. Пітэкантрапа Колі Какашкіна.



### Студзень

| | |
|---|---|
| пн | 5 12 19 26 |
| аў | 6 13 20 27 |
| ср | 7 14 21 28 |
| чц | 1 8 15 22 29 |
| пт | 2 9 16 23 30 |
| сб | 3 10 17 24 31 |
| нд | 4 11 18 25 |

### Люты

| | |
|---|---|
| пн | 2 9 16 23 |
| аў | 3 10 17 24 |
| ср | 4 11 18 25 |
| чц | 5 12 19 26 |
| пт | 6 13 20 27 |
| сб | 7 14 21 28 |
| нд | 1 8 15 22 29 |

### Сакавік

| | |
|---|---|
| пн | 1 8 15 22 29 |
| аў | 2 9 16 23 30 |
| ср | 3 10 17 24 31 |
| чц | 4 11 18 25 |
| пт | 5 12 19 26 |
| сб | 6 13 20 27 |
| нд | 7 14 21 28 |




### Красавік

| | |
|---|---|
| пн | 5 12 19 26 |
| аў | 6 13 20 27 |
| ср | 7 14 21 28 |
| чц | 1 8 15 22 29 |
| пт | 2 9 16 23 30 |
| сб | 3 10 17 24 |
| нд | 4 11 18 25 |

### Май

| | |
|---|---|
| пн | 3 10 17 24 31 |
| аў | 4 11 18 25 |
| ср | 5 12 19 26 |
| чц | 6 13 20 27 |
| пт | 7 14 21 28 |
| сб | 1 8 15 22 29 |
| нд | 2 9 16 23 30 |

### Чэрвень

| | |
|---|---|
| пн | 7 14 21 28 |
| аў | 1 8 15 22 29 |
| ср | 2 9 16 23 30 |
| чц | 3 10 17 24 |
| пт | 4 11 18 25 |
| сб | 5 12 19 26 |
| нд | 6 13 20 27 |

### Ліпень

| | |
|---|---|
| пн | 5 12 19 26 |
| аў | 6 13 20 27 |
| ср | 7 14 21 28 |
| чц | 1 8 15 22 29 |
| пт | 2 9 16 23 30 |
| сб | 3 10 17 24 31 |
| нд | 4 11 18 25 |

### Жнівень

| | |
|---|---|
| пн | 2 9 16 23 30 |
| аў | 3 10 17 24 31 |
| ср | 4 11 18 25 |
| чц | 5 12 19 26 |
| пт | 6 13 20 27 |
| сб | 7 14 21 28 |
| нд | 1 8 15 22 29 |

### Верасень

| | |
|---|---|
| пн | 6 13 20 27 |
| аў | 7 14 21 28 |
| ср | 1 8 15 22 29 |
| чц | 2 9 16 23 30 |
| пт | 3 10 17 24 |
| сб | 4 11 18 25 |
| нд | 5 12 19 26 |

### Кастрычнік

| | |
|---|---|
| пн | 4 11 18 25 |
| аў | 5 12 19 26 |
| ср | 6 13 20 27 |
| чц | 7 14 21 28 |
| пт | 1 8 15 22 29 |
| сб | 2 9 16 23 30 |
| нд | 3 10 17 24 31 |

### Лістапад

| | |
|---|---|
| пн | 1 8 15 22 29 |
| аў | 2 9 16 23 30 |
| ср | 3 10 17 24 |
| чц | 4 11 18 25 |
| пт | 5 12 19 26 |
| сб | 6 13 20 27 |
| нд | 7 14 21 28 |

### Снежань

| | |
|---|---|
| пн | 6 13 20 27 |
| аў | 7 14 21 28 |
| ср | 1 8 15 22 29 |
| чц | 2 9 16 23 30 |
| пт | 3 10 17 24 31 |
| сб | 4 11 18 25 |
| нд | 5 12 19 26 |






# СЛУЧАЙ З ПАЦАНОМ II

**ЯК БЕЛАРУСЫ ПАДЫМАЮЦЬ НЯМЕЦКІЯ БУЦІКІ**

Каця Іваноўская

**У пастаянным руху пакупнікоў дарагога бэрлінскага буціку іх адразу і не прыкмеціш, але насамрэч гэтыя два юнакі - разам. Адзін зь іх накіроўваецца зь некалькімі выбранымі рэчамі ў прымерачную, але неўзабаве расчаравана выходзіць адтуль і пакідае буцік. Не праходзіць і некалькіх хвілінаў, як другі робіць тое самае: заходзіць у тую ж прымерачную, таксама нічога не купляе і гэтаксама выпраўляецца на людную вуліцу - ягоныя рухі дакладна капіююць рухі першага, адно што зь невялікім адставаньнем. Нібы здымаецца другі кіношны дубль.**
**На вуліцы яны не паказваюць сваёй радасьці і куражу - разыходзяцца ў розныя бакі як чужыя, каб пазьней сустрэцца як сябры ў просьценькім бары і парадавацца посьпеху ды ўдачы - сёньня рэчаў у буціку яны сапраўды "нап*зьдзілі" на круглую суму. А ўсе ўбачылі толькі кіно ў іх пастаноўцы. Там яны "зоркі", а паліцыянты і ахоўнікі - "чарговы раз разьведзеныя лохі". Адно што ў хлопцаў сцэнар спрошчаны: напраўду гэта быў іншы фільм, і акцёраў у ім куды больш.**

Пасьля бару яны зноў разыходзяцца па дамах. Адзін зь іх, умоўна назавем яго Андрэем, ідзе ў сваю "абшчагу для бежанцаў". Яму 19, ён прыехаў зь невялічкага беларускага мястэчка, дзе заўсёды адрозьніваўся ад сябрукоў большай прадпрымальнасьцю. Зарабляў на перапродажы каштоўных мэталаў і час ад часу езьдзіў на апазыцыйныя мітынгі ў Менск. Апошняе рабіў па перакананьнях, але не без прыцэлу застацца аднойчы, да прыкладу, у Германіі на правах палітычнага бежанца. Тое і зьдзейсьнілася год таму.
Пасьля візыту ў адпаведныя органы і пачатку праверак высьветлілася, што пэрсона герр Андрэя мала цікавіла беларускія спэцслужбы, і тыя нават не спрабавалі палітычна перасьледаваць пацана. Першапачатковы плян застацца нібыта ляснуў, але гэта яшчэ нічога ня значыць: у бюракратычнай Германіі падобныя справы разглядаюцца вельмі доўга, ледзь не гадамі. А на час чаканьня (незалежна ад шанцаў на атрыманьне станоўчага адказу) грамадзянам з Андрэевымі амбіцыямі надаецца афіцыйны статус - "асоба, якая просіць палітычнага прытулку". Менавіта слова "просіць" цягне за сабой дзяржаўную апеку ў выглядзе жыльлёвай плошчы ў адпаведным інтэрнаце, аплачаных страховак і 200 эўра ў месяц на харчаваньне і кішэнныя расходы. Для Германіі няшмат, але ня так і кепска. Зрэшты, Андрэй лічыць па-іншаму: "Як можа малады чалавек жыць на тыя грошы?"
Ісьці працаваць? Тая ж бясконцая цяганіна з дакумэнтамі, да таго ж трэба ведаць мову. Калі ж працаваць "па-чорнаму", то атрымаеш капейкі, а крый Божа эміграцыйныя органы зловяць - "Вяртаньне на Радзіму" ў стылі Агінскага забясьпечана...
Атрымліваецца, што крадзеж - ня самая горшая пэрспэктыва для паўлегальнага эмігранта. Да таго ж яшчэ ў Беларусі нехта зь сяброў дзяліўся, што "п*зьдзіць у немцаў вельмі проста - яны дурныя!" Па шчырасьці, гэта і быў першапачатковы, сапраўдны прыцэл для паездкі. Ня дзіва, што беларус адразу знайшоў сябрукоў, якія і інсцэнізавалі "Карты, грошы, два ствалы" на абсягах буцікаў Бэрліну.
"Так, пасадзіць могуць, - распавядае Андрэй, - але толькі калі возьмуць з доказамі на руках, а калі пасьпееў "скінуць" рэчы, то ўсё - паразьбіраюцца і адпусьцяць. Тут і з паліцыянтамі можна лаяцца, ня тое што ў нас!" Для пацаноў, якія неаднойчы зьведвалі "ласкі" беларускіх мянтоў, гэта асаблівы кайф - стаў сабе, разыгрываеш перад удзячнай публікай глуханямых, "даўнаў", "прыпадачных". Ходзіць байка пра беларускага хлопца, які на стандартнае пытаньне паліцыянта "вы прыехалі па візе?" адказаў: "А вы ў 41-ым да нас па візе прыяжджалі?"
Проста і з густам.



## САПРАЎДНАЕ КІНО

Андрэй з напарнікам толькі напачатку ня кідаюцца ў вочы прадаўцам буцікаў. Насамрэч пацаны замалыя для атаварваньня ў якім-кольвек Hugo Boss: пакупкі такой клясы і кошту ў Эўропе могуць дазволіць сабе пераважна людзі сталыя і "ўладкаваныя", кажучы проста - бюргеры перадпэнсійнага веку. Прадаўцы хлопцаў прыкмецілі, але пакупнік ёсьць пакупнік. Хлопцы ж заўважаюць куды больш: рухі і позіркі прадаўцоў, пакупнікоў, месцазнаходжаньне відэакамэраў.
Сама працэдура крадзяжу выглядае наступным чынам: Андрэй выбірае рэчы (як правіла, гэта канкрэтны заказ "кліентаў") і накіроўваецца зь імі ў прымерачную.
Там пруткамі і іншымі адмысловымі прыладамі здымае ахоўныя магніты (дзякуючы ім неаплачаная рэч "зьвініць" на выхадзе), пасьля прымацоўвае іх на "непатрэбную" рэч, з апошняй выходзіць з кабінкі, вешае на месца і сыходзіць. Рэчы без магнітаў застаюцца ў прымерачнай, адкуль іх выносіць другі.
Схема ледзьве не ідэальная - простаму воку цяжка заўважыць усе махінацыі. Зь іншага боку, як пападзешся з "прыладамі для выдаленьня магнітаў", пішы прапала - наяўныя доказы дазваляюць шыць канкрэтную справу. Вядома ж, бяз казусаў не абыходзіцца. Аднойчы Андрэй, тады яшчэ недасьведчаны ва ўсіх тонкасьцях, зблытаў прымерачныя і пасьпяхова вынес з крамы рэчы аднаго з пакупнікоў, якому трэба было якраз у той момант выйсьці з кабінкі ці то каб паглядзецца ў вялікае люстра, ці то каб падабраць нешта іншае. У рэчах, якія вынес Андрэй, былі ўсе дакумэнты, крэдыткі, мабіла немца. Пэўна, адміністрацыя буціку адным вялікім скандалам не абыйшлася!
Зараз Андрэй ведае сабе цану: нічога ня блытае, можа лёгка абхітрыць відэакамэры, прадаўцоў, магніты.
Але цяпер ён упэўніўся, што немцы не такія і тупыя.
"Разумееш, усе рэчы ў буціках застрахаваныя, значыць, краме ў прынцыпе ўсё роўна, на чым рабіць выручку: на продажы ці крадзяжы. Але страхавым кампаніям ня ўсё адно: яны наймаюць спэцыяльных дэтэктываў. Тыя, у адрозьненьне ад прадаўцоў, апранутыя звычайна і нібыта зьліваюцца з масай, але насамрэч пільна сочаць за пакупнікамі, адпаведна, і за намі".

## ЗАСАДЫ

Таму, хто пасьпеў пусьціць сьлінкі хцівасьці, раю расслабіцца і пабергчы сьлінныя залозы да лепшых часоў. Асоба, што "просіць палітычнага прытулку", фактычна ня мае ніякіх правоў у параўнаньні з тымі ж палітбежанцамі "ў законе".
200 эўра, што пералічваюцца Андрэю, трапляюць на спэцыяльную картку ці выдаюцца чэкамі, па якіх нельга атрымаць рэальныя грошы. То бок на руках у цябе ня будзе ні рубліка (выбачайце за калямбур). Разьлічвацца такімі чэкамі і карткамі можна толькі ў некаторых крамах, якія часьцей за ўсё знаходзяцца на ўскрайку Бэрліну, а гэта ўжо само па сабе абмежаваньне свабоды і ўскосная дыскрымінацыя "не сваіх" грамадзянаў.
Грошы на картцы трэба патраціць цягам таго месяца, на які іх далі, інакш пакінутая сума згарае. Такім чынам, немагчыма сэканоміць на штосьці больш-менш дарагое. З чэкамі яшчэ складаней. Кожны мае вартасьць 25 эўра, але рэшту наяўнымі грашыма можна атрымаць на суму, ня большую за 10% ад вартасьці чэка, гэта значыць 2,50 эўра. То бок закупкі нават у прадуктовай краме становяцца эпапеяй з падлікам на калькулятары: што ўзяць, а што - не (купіць жа адну дробязь немагчыма!). Хочаш набыць сшытак - будзь ласкавы, едзь "на выселкі" і закупляйся ў канцтаварах на ўвесь чэк!
Абвінавачваць немцаў у недэмакратычнасьці - няўдзячны занятак (сябе ў люстры бачылі?). Першапачатковая карткавая сыстэма мела на мэце скарачэньне злачыннасьці, у прыватнасьці, ужываньня і распаўсюду сярод эмігрантаў наркаты. Здавалася б, някепская ідэя, але даўно стала зразумела, што такая сыстэма толькі стымулюе крымінальныя захады. Ясна, што нарката - праблема ў лягерах і інтэрнатах для перасяленцаў, але ж ёсьць нармальнае чалавечае жаданьне мець колькі грошай на філіжанку кавы ці куфаль піва ў бары, дзе карткі і чэкі не бяруць. У выніку бежанцы ўсіх нацыяў крадуць, працуюць "па-чорнаму" ці прадаюць карткі на чорным рынку за палову іх сапраўднага кошту.

## РБ VS. EUROPE

На фоне праблемаў у Беларусі гісторыя і наступствы выглядаюць гэткім "люкс-лямантам". Эўропа сапраўды стаіць на высокім узроўні дэмакратыі і эканамічнага разьвіцьця, праз які беларусы - "вечныя жабракі" - ідэалізуюць Захад да ступені мітычнай Краіны Оз.
Але па сутнасьці Андрэй - асобны прыклад таго замкнёнага чортава кола праблемаў у "іх" дзяржаўным і сацыяльным уладкаваньні, няхай на свой капыл і на іншым якасным узроўні.
Кар'ера Андрэя прымушае яго задумацца, што фактычнае спрыяньне крадзяжам у буціках і рэдкія спробы пакараньня сапраўды некаму выгадныя. Камусьці выгадна атрымліваць страхоўку за скрадзенае, камусьці часам выгадна злавіць пацаноў і палепшыць паліцэйскую статыстыку, камусьці - прадаць скрадзенае, а камусьці - пастаянна наракаць на крыміналізаванасьць усходнеэўрапейцаў-афрыканцаў-лацінасаў, каб падтрымаць адпаведны стэрэатып "вораг і злодзей недзе побач".
Пры гэтым просты беларускі пацан з Бэрліну небеспадстаўна кажа, што "п*зьдзіць у Германіі нашмат лепей, чым жыць у Беларусі. Мая безвыходнасьць злодзея, якога калі-небудзь усё-ткі зловяць, не такая фатальна шэрая, як жыцьцё таты, мамы, малодшай сястры там".
Андрэй з гонарам расказвае пра тое, што дапамагае бацькам. Як і яго сябрукі, ён дасылае дадому шмоткі, бытавую тэхніку, грошы са словамі "ну, пакуль магу і пакуль бясплатна даецца..." Яго разьведзеныя бацькі ведаюць, адкуль бяруцца падарункі, але тым ня менш прымаюць іх. Бацька, ня вельмі пасьпяховы прадпрымальнік, кажа: "Будзеш дурнем, калі сам вернешся". Мама-настаўніца часам плача па тэлефоне, просіць вярнуцца, бо знайшла для яго працу. Але пасылку з мабілай і адзеньнем "для бацькі" мужу не перадала. Прынцыпова. Мусіць, таксама прынцыпова ўсё гэта перапрадала.
А яшчэ ён расказвае пра землякоў-злодзеяў, пра кліентаў (якія заказваюць усё: ад кавы да касьцюмаў Hugo Boss), пра чачэнцаў, якія "лахаюць" іншых, каб краў, бо рабіць гэта самім ім забараняе Каран, пра знаёмых, што сьпіваюцца і скалваюцца.
"Блін, я баюся сам сябе - болей не магу ня красьці. І трапіць у паліцыю страшна. Часам думаеш, як крута было б аднойчы наваліць цэлы кошык прадуктаў і за ўсё гэта заплаціць у супэрмаркеце. Якія мары? Паездзіць па сьвеце, і лепей за ўсё так, каб гэтую прыгажосьць пабачыў нехта яшчэ... Сястра, напрыклад".
Шчыра кажучы, я ня ведаю, што Андрэй прыдумаў, а што - не. Прынамсі, нават калі ён усё і прыдумаў, то так рэалістычна, што паверыў сам. Ня ведаю... Падчас нашай апошняй сустрэчы ў Бэрліне ён сказаў, што зьбіраецца перабрацца ў якую-небудзь іншую эўрапейскую краіну, дзе, можа, будзе лягчэй "аформіцца" бежанцам і дзе хутчэй за ўсё ён будзе працягваць красьці.





30 студзеня 2004

КЗ "Мінск" 19.00

"ПАРАВІНЫ ГОДУ"

на вершы А. Камоцкага

WZ-ORKIESTRA

# Зміцер Вайцюшкевіч

кампазітар і выканаўца

тэл. GSM 764 09 27

# N.R.M.

## VOX POPULI

**Папулярны ў народзе вакальна-інструмэнтальны ансамбль N.R.M. рыхтуе песенную справаздачу за 1994-2004 гады. Тое, што называецца "зэ бэст", будзе прэзэнтавана**

## 8 ЛЮТАГА 2004 ГОДУ Ў КЗ "МЕНСК"

Занепакоеныя заўзятары творчасьці ВІА пытаюцца:
што ім давядзецца пачуць?
Толькі тое, што яны самі захочуць!
Усенароднае галасаваньне!

**Прад'явіўшы пэрсанальныя рэквізыты на http://nrm.home.by, кожны грамадзянін N.R.M. зможа выбраць сапраўды ўсенародна любімую музыку!**

## УСЕ НА ВЫБАРЫ! ЗРОБІМ ГОЛАС НАРОДУ ЧУТНЫМ!



**НА НГ СЬВЯТЫ МІКАЛАЙ ДАЕ ПАДАРУНКІ ТОЛЬКІ САЦЫЯЛЬНА НЯМОГЛЫМ І БЕЗАБАРОННЫМ ГРАМАДЗЯНАМ - ДЗЕТКАМ. АСТАТНІЯ ЗДАБЫВАЮЦЬ ІХ САМІ. КАЛІ ТЫ ДЗІЦЁ, КУПЛЯЙ ДЫСК "НАША МУЗЫКА" Ў МУЗКРАМАХ. КАЛІ Ж ТЫ МАЛАДЫ І НАХАБНЫ - ПАТРАБУЙ ЯГО Ў ДАВЕСАК ДА "СТУДУМКІ".**

**НА КАМПАКЦЕ - НЯКЕПСКІ БЕЛАРУСКІ РОКА-ПОПС "ДЛЯ І АД 16-ГАДОВЫХ І СТАРЭЙШЫХ". САМА ТОЕ ДЛЯ НАС.**

**КАРАЦЕЙ, СЛУХАЕМ ПОПС. ЯК І ТЫ.**



альфа радио 107,9 FM



1. Чехов / **007** / Р. Орлов – В. Скугаревский
2. BN / **Не трывай мяне** / А. Лютыч – С. Машковіч
3. Long Play / **Картинка** / Н. Леонтьев – Н. Леонтьев
4. The Stokes / **Между Минском и Римом** / А. Смоляков – А. Смоляков
5. IQ-48 / **Тапoлі** / Я. Бузоўскі, К. Калеснікаў – П. Зыгмантовіч, А. Ракавец
6. Corriana / **Measures** / Л. Ширин – Е. Качина
7. NRM / **Лёгкія-Лёгкія** / Л. Вольскі – Л. Вольскі
8. J_МОРС / **Глядзі** / У. Пугач – Арлоў Б.
9. СИНИЦА / **Поздно** / СИНИЦА – СИНИЦА
10. Лангольеры / **Новый Год** / М. Бардашун – М. Бардашун
11. Караван / **Покурим** / А. Бразговка – А. Бразговка
12. Крамбамбуля / **Госьці** / Л. Вольскі – Л. Вольскі
13. Серёга / **Кукла** / С. Пархоменко – С. Пархоменко
14. Медуза / **Слёзы под дождём** / Е. Волчек – Е. Волчек

шукайце · схаваныя · трэкі

© ℗ promotion company ARLO MUSIC 2003

Арганізацыя канцэртаў, дыстрыбьюцыя, прадусаванне: Р. Орлов / +375 29 630 80 30 / Дырэктар праекта: А. Рогач / +375 29 634 57 23 / Юрыдычная падтрымка: В. Пугач / Мастарынг: А. Зайцаў / Дызайн: У. Казаноўскі / Фота: Р. Лёўшыц

AM - 0004

MASTER records · Такси 007 · Star Shop · альфа радио 107,9 FM · arlo music



МИНСК 107,9 FM • ВИТЕБСК 107,6 FM

**Даражэнькія!**
Праект «Наша Музыка» зьявіўся і развіваецца дзеля Вас і дзякуючы Вам. Гэта Вашу неабыякавасць мы адчуваем кожны раз, калі сумненні ў тым, што «гэта камусьці трэба» цягнуць нас долу. Гэта Вам мы абавязаны пачуццём перспектывы. Пішыце, тэлефануйце, прыходзьце на канцэрты. Паболей здаровай крытыкі ў наш адрас – мы не застрахаваныя ад памылак. Сустрэнемся як заўсёды на хвалях 107,9 FM Мінск, 107,6 FM Віцебск. Заўсёды Ваша, «Наша Музыка».

Спасибо:
В. Дроздову, Ю. Смирнову, В. Пугачу, Д. Шепелеву, Н. Дудко, Л. Мироновой, Н. Плотниковой и И. Насекайло, Г. Морозову, Д. Кораблеву, Александру Колтунову, В. Волчек и Ю. И. Наливайко, А. Зайцеву, Сергею Кузину, Артему Бадулину и Со, Игорю Владимировичу Верховцу и Такси 007 / особенное Павлу /, Кириллу Волошину и команде tut.by, Игорю Адмаеву и Диме, а также: клубу «Алькатраз», сети магазинов «Мистерия Звука»

Отдельное спасибо from Рома:
Б. Орлову и семье, В. Супрановичу, Фрейду и Русе, Федору и Диане, Серёге / за патриотизм / и Лёше Стоксу / за «Остаться Здесь» /

Отдельное спасибо from Саша:
Всей моей большой семье, Маше, Андрею, Целобенкам, О. Климову / за письма / и Д.Безкоровайному / за ICQ /, группам и особенное В.Пугачу





# АД СЭКСІІ ДА СЭКСІІ

## ЗА ГЭТА ІМ ПЛАЦЯЦЬ

Алёша Сярых

**Сяджу неяк у інтэрнэт-клюбе, шукаю рэфэрат. Часу няма, нічога патрэбнага не знаходзіцца, пастаянна выскокваюць банэры з парнухай. Адміністратар на ўсе мае прапановы зрабіць штонебудзь з гэтым грэбаным кампом і брудам на ім шчыра дзівуецца: "І што вам тут не падабаецца? Дзяўчаткі во якія! Оба-на, глядзіце!" Толькі хачу запярэчыць "я не па тых справах", як - Матка Боска - з экрана ў адных міні-танга на мяне глядзіць яна. Распаленая, уся ў жарсьці і ўжо гатовая да "гэтага". Мая "родная" аднакурсьніца Танечка В. Дакладна яна: і радзімка на шчацэ, і завушніцы тыя самыя, і ды і пагаворвалі пра яе ўсялякае неаднойчы.**

Чым чалавек спачатку навучыўся гандляваць, дык гэта сваім целам. Калі раней панятак "прастытуцыя" меў нэгатыўны сэнс (ад лацінскага "апаганьваньне, абняслаўленьне"), то сёньня гэта "асабістая справа кожнага". Таму тое, што студэнтачкі і студэнцікі займаюцца прастытуцыяй, стрыптызам і порна, не зьдзіўляе нікога. Шлюху без вышэйшай адукацыі зараз сустрэнеш рэдка.
Ды і не адны мы ў сьвеце: паводле крыніцаў у інтэрнэце, у кансэрватыўнай Брытаніі 60% студэнтак - прастытуткі. Праблема сапраўды актуальная: брытанскі ўрад адмовіў моладзі ў крэдытах, а вучыцца надта ж хочацца. Гадавую аплату за вучобу англічанкі зарабляюць за пару месяцаў. А што рабіць, не вучыцца ж?..

### КАЛІ ПРАСАЧЫЦЬ,

дзе студэнцкая прастытуцыя распаўсюджана больш, то ў авангардзе будуць стаяць ВНУ гуманітарнага профілю. Спрацоўвае адчувальны дэфіцыт у моцнай палове чалавецтва: калі на факультэце чатыры хлопцы, дык тут ваўком завыеш. Да таго ж, вучыцца ў гуманітарным непараўнальна лягчэй, чым у іншых ВНУ. Народная мудрасьць кажа: вучоба ва ўнівэры для прыстойнай дзяўчыны - пяць год вольнага часу, за якія яна нават мужа сабе знайсьці можа.
Асабліва ў гэтым пляне вылучаюцца БДПУ, БДУ і "кулёк". У "мэдзе" прастытуцыю далікатна называюць "вывучэньнем фізіялягічных працэсаў на практыцы", і ў "лябараторных вопытах" тут гатовыя ўдзельнічаць многія паненкі.
Што да прыватнасьцяў, то кожны інтэрнат / студгарадок / ВНУ мае ўласную стомэтроўку, дзе можна "зьняць" і "зьняцца". Ад арыгіналу яна адрозьніваецца меншай плошчай, нізкімі коштамі і кругласутачнай працай ("зьняць" можна і ў 8 раніцы, і ў 12 ночы). У некаторых месцах практыкуецца "макдрайв": кліент і дзяўчына могуць дамовіцца, не адыходзячы ад касы. Ён - высунуўшы галаву з акна машыны, яна - з акна пакою. Разьмяшчаюцца стомэтроўкі паблізу інтэрнатаў: БДУшніцы і "тэхналягічкі" ходзяць на дынамаўскія "сьцякляшкі" "папіць піва" ("на чыпсы", "на семкі" і да т.п.), будучыя пэдагагіні прагульваюцца па вул. Валадзько і ўздоўж Чэрвеньскага рынку.

## ЦПС

Маладыя людзі, якія ніколі не імкнуліся ў абітурыенты, выдатна ведаюць, якое месца ў сыстэме вышэйшай адукацыі РБ адыгрывае ЦПС і дзе яно знаходзіцца. Пра цэнтральнае п*дасховішча ведае ільвіная большасьць маладых "крутых", пэтэвэшнікаў і навучэнцаў тэхнічных ВНУ. Едуць сюды ўсе, хто шукае плоцкіх уцехаў. Колькасьць тых, якія захоўваюцца ў ЦПС і гатовыя па першым сыгнале рынуцца ў бой, можа вар'іравацца ад адной да тысячы - і амаль усе яны ня супраць. Але мусім прызнаць: сховішча - гэта не бардэль, Мадам тут няма. Таму сам кліент прапаноўвае ехаць усім, хто выкажа зацікаўленасьць. Безумоўна, ён можа сутыкнуцца з тым, хто сапраўды "ня хоча", але такіх пераважная меншасьць. Пачуць распаведы пра тое, як "засынала ў ложку з адным, а прачыналася зь іншым", можна на кожным паверсе ЦПС ледзь не праз адзін пакой.
Паліна К-віч, вельмі адукаваная ў сэксе дзеўка, вырашыла да ўласнага 20-годзьдзя назьбіраць калекцыю "100 мужыкоў". Дзяўчына трапілася мэтанакіраваная і вырашыла зьдзейсьніць сваю мару.
...Дзень Х на носе, калекцыя няпоўная. У сяброўак, якія назіралі за пакутамі Палінкі, ужо закралася сумненьне. Але дзе там! Па натоўпах хлопцаў, што завісалі ў пакоі, і крыках на калідоры "Зь мяне хопіць, я К-віч сёньня трахаць ня буду" ўсе зразумелі, як яе недаацэньвалі. Пацьвярджала пасьля гэта і яна сама.
Лора Палмэр, між іншым, таксама свайму дзёньніку абяцала, што "калі я і буду займацца сэксам, то пастараюся атрымаць ад гэтага больш карысьці і задавальненьня, чым мае бацькі". Чым у яе ўсё скончылася, нагадваць ня трэба.

## Розныя варыянты

Навошта?
"Проста так" - варыянт №1. Сумна, арганізм патрабуе і проста рабіць няма чаго. У такіх выпадках дзяўчыны папросту высоўваюць галаву на калідор і крычаць: "Хачу хоць якога-небудзь мужыка!" Пасьля выходзяць папаліць, і глядзі - праз некалькі хвілін зьяжджаюць на колькі дзён " на шашлыкі" зь першым сустрэчным.
Калі куды-небудзь паехаць хочацца, а грошай няма - таксама не праблема. Варта патусавацца каля машын, прыпаркаваных ля інтэрната, выбраць сабе якую - і наперад!
Варыянт №2: зарабіць грошы / шмоткі / мабілу / аплату за мабілу / інш. Калі кліент пастаянны, зьяўляюцца пэрспэктывы на будучыню. Часьцей, вядома ж, кідаюць. Правінцыялка Юлія В. паступіла ў адну зь менскіх ВНУ. Бацькі засялілі малую ў інтэрнат, далі грошы на вучобу і зьехалі. Тая пажыла колькі дзён і хутка заўважыла, што грошы "неяк разыйшліся". Не раздумваючы доўга, Юлія заяўляе суседкам па пакоі, што зьбіраецца зарабіць. Спачатку нехта даваў ёй за працу $20, пасьля такса зьнізілася да $10. Потым Юлія сама ўвайшла ў смак і прыносіла ад кліентаў толькі цукеркі і касмэтыку. Аднойчы яна вярнулася пасьля трохдзённага загулу і толькі сказала: "Нават не пакармілі, сукі".
Варыянт №3: праз пятага ці дзясятага знайсьці сваё каханьне і выйсьці замуж. У выпадку пасьпяховасьці пражэкту лёс сям'і перадвызначаны. Пры першай жа нагодзе мужык папракне: "Дзе б ты, бл*дота, была зараз, калі б я цябе ня ўзяў?"

## Дзякуючы, нягледзячы і нават так

Таня Зайцава, галоўная "інтэрдзевачка" СССР, памылялася, калі казала, што для такой сацыяльнай зьявы, як прастытуцыя, законаў і артыкулаў не прыдумалі. Дзякуючы пранікненьню камэрцыі ў інтым прастытуцыю ў Беларусі прызналі і пачалі зь ёю змагацца. Былі выдадзеныя некалькі законаў, у Адміністрацыйным кодэксе ёсьць арт. 162-1 "Занятак прастытуцыяй". На першы раз ён прадугледжвае папярэджаньне ці накладаньне штрафу ў памеры 10 мінімальных заробкаў (блізу 175 000 BRB). Тыя ж дзеяньні, зьдзейсьненыя цягам году паўторна (хутчэй за ўсё, калі трапілася паўторна, бо "два разы на год" і прастытуцыяй няёмка называць), - штраф у 20 мінімалак. Ёсьць яшчэ пастанова беларускага ўраду за пазамінулы год "Аб дзяржаўнай праграме комплексных мераў па супрацьдзеяньні гандлю людзьмі і распаўсюду прастытуцыі на 2002-2007 гг.". Хіба што там напісана нешта сакрэтнае, бо знайсьці яе мы так і ня здолелі.
Нягледзячы на ўсё, Беларусь знаходзіцца на трэцім месцы сярод краінаў СНД па колькасьці хворых на ВІЧ (афіцыйна іх 4 548, неафіцыйна - каля 13 000). А калі дадаць сюды тыя 400 000 беларусаў, якія штогод хварэюць на вэнэрычныя захворваньні... Па Менску на пранцы і іншую трасцу кожны год хварэюць 8 600 студэнтаў.
Маралізаваць на тэму ня мае сэнсу. Агульнавядома, што выпускныя ў школах заканчваюцца ня толькі бадуном, але і мінэтам, а на адзін раддом прыпадае 12 выпадкаў прыроджанага сыфілісу. І калі старпёры кажуць, што ніякіх каштоўнасьцяў у малалетак не засталося, то настойліва раім ім паглядзець на сваіх аднагодкаў.





## Кліент-дацэнт

Студэнцкай прастытуцыяй карыстаюцца і выкладчыкі - сталыя і дасьведчаныя пэдагогі. Некаторыя зь іх у працоўны час прэтэндуюць на ролю "другіх бацькоў" студэнтак, а па-за працай могуць "па-бацькоўску" паймець іх у прамым сэнсе. За тое, што далі "бясплатную кансультацыю", за "дапамогу ў працы над курсавой", за "спрыяньне ў засяленьні ў інтэрнат". "Прасьцей раз аддацца і пасьля мець гарантаванае месца-ложак у інтэрнаце, чым мыкацца і прасіць", - упэўненая Вольга Е. Пяцікурсьніца са спакойным выглядам распавядае пра тое, як старшыня студэнцкага прафкаму прапанаваў ёй пераспаць "за абшчагу". "Затое я дасягнула сваёй мэты", - кажа Вольга.
Прастытуцыя можа мець і "прыстойныя" формы. Першакурсьніцы-гуманітарыі з году ў год слухаюць настаўленьні куратараў. Тыя адным зь першых культпаходаў для групы "зялёных" абіраюць візыт да будучых міліцыянтаў, пажарных, вайскоўцаў - да "сапраўдных мужчын".
Для куратараў насамрэч важна, каб дурніцы-першакурсьніцы "не бадзяліся абы з кім і абы-дзе".
Ён (які бачыць дзяўчын зрэдку і здалёк) і яна (якая прывыкла, што за чалавекам у форме як за каменнай сьцяной) у выніку пагулянак могуць "перапхнуцца", а пасьля разьбягаюцца. Так і заканчваюцца патугі куратараў, дзеяньні якіх Крымінальны кодэкс трактуе як "зводніцтва".

Finita la comedia калі-небудзь наступае. Дзеўкі-лімітчыцы вяртаюцца дахаты з дыплёмам аб заканчэньні ВНУ, непамерным сэксуальным досьведам і адчуваньнем сябе ў якасьці сэкс-бомбы. (Вось каму сапраўды будзе што ўзгадаць пад старасьць!) Адзінкам сапраўды ўдаецца зрабіць кар'еру прафэсійных путанаў і выйсьці на сапраўдную стомэтроўку. А астатнія ходзяць па гінэколягах, блукаюць па Прылуках, трапляюць у міліцыю ці проста жывуць звычайным жыцьцём. Карацей, нічога цікава.

# ПАЙШЛІ ВЫ!

## НЯ ПРОСТА МОДА

Андрэй Гнёт

**Была ў мяне girlfriend. Так, звычайная ціхоня. У школе вучылася на 4-5, хадзіла ў гурток мяккай цацкі, малявала часам. Звычайная сям'я: двое дзяцей (яна - малодшая), тата (рабацяга) і маці (клапатлівая гістэрычка). Усё б добра, ды час не стаіць на месцы. Пераходны ўзрост, выпускны, акторскі факультэт... Ды ці мала мэтамарфозаў?**

І вось такая прыкрасьць: быць звычайнай - цяжка. Гэта як шэрая пляма на асфальце: можа, і заўважаць, але ў асноўным усе міма праходзяць - а так ня хочацца. У нагрузку абставіны: маўляў, вобраз ужо занадта прыстойны, амаль Фрося Бурлакова. У фільме весела, а ў жыцьці хочацца павесіцца на ўласнай касе. Дома штодзённыя ўрокі жыцьця: "не вытыркайся: узнагарода за паслухмянасьць - новыя боты Belwest". Плюс: усё што па тэлеку - "распуста", шмоткі зь фірмовых крамаў - "для ідыётаў", касмэтыку "прыдумалі прастытуткі", а "дома кепскаму не навучаць".

Кожны дзень. Кожны дзень... Кожны дзень? Кожны дзень! К-О-Ж-Н-Ы-ДЗ-Е-НЬ!!! Вы разумееце? КОЖНЫ. Яны ціснуць, як кайданкі айчыннай вытворчасьці. Балюча, а зрабіць нічога нельга. Залежыш ад іх.

Любыя намёкі на new - у штыкі ("дахаты не вяртайся"). Як бяльмо на воку - узрост. Ня ясельны - амаль 20. Чужой галавой думаць складана. "Божа, я хіба што звар'яцею..." Увечары яна прыйшла з кароткай lesbi-стрыжкай колеру сасьпелага мандарына і пірсынгам у яшчэ прыпухлай брыві. Твар намалявалі ў папулярным сярод вузкага кола салёне.

Гарачая гарбата і "прывет, ма". Інфаркт зьмяніўся рэвалюцыйным усьведамленьнем...
НОВАЯ АСОБА НАРОДЖАНАЯ. ВОСЬ Я!

Усё ж дзіўныя ў нас адносіны да саміх сябе.
Ня НАС просяць нешта зрабіць за $, а МЫ просім $ за тое, што зрабілі. УЖО зрабілі!

Ведаў я дызайнэра аднаго. Як мог, рабіў сваю с праву. Толькі ня думаў, што МОГ шмат. Першы заказ зь бюджэтам у сто бэ ацаніў як сэнс свайго жыцьця.
Два тыдні бяссоньня замест месяца, два макеты замест аднаго - бліскучая праца як вынік.

Грошы прымусілі доўга сябе чакаць. Прасіць ня ўмеў, бо досьведу не было. Парада сяброў - досьвед трэба набываць, а "ў нас усё так і робіцца". Размовы раз на тры дні з заказчыкам. Ні слова пра грошы… З абодвух бакоў. Першы цярпеў, іншы цярпеньне выпрабоўваў.

Гістарычная сустрэча адбылася праз 3 месяцы. Праз 14 тыдняў. Праз 98 дзён, калі хочаце. Вартая шкадобы паперка зеленаватага адценьня з тварам экс-уладара 1/4 сушы. Хіба вартая яна штосэкунднага самаедзтва, супярэчаньняў унутры і звонку, бясконцых тэлефанаваньняў на мабільнік?

Без гістэрыкі: разадраў і выкінуў. На вачах. ТЫ б зрабіў ня так - навошта такія радыкальныя пратэсты?

Даведка: яшчэ праз месяц сябрук-дызайнэр паступіў у штат канторы. Нешта кшталту ***-graphics. Ганарар адпаведны.
ТАМУ ШТО ЁН ЗРАЗУМЕЎ, ШТО МОЖА.

Учора я сыйшоў па-ангельску. Тое, што было для мяне такім дарагім, давялося пакінуць. Я ніколі больш ня сяду за гэты стол. (Я так доўга і беражліва абклейваў яго ўсялякай муцыцю, якая вельмі падабалася!) І мы ня будзем больш вырашаць глябальныя праблемы сучаснасьці ў імправізаванай курылцы, пазычаючы "тышчу" на таксі. Таму што я зараз буду іншым і перастану спазьняцца на апошні трамвай. Я адмовіўся ад таго, што любіў. Ува мне кіпіць новая сьвядомасьць. Таму што я

**ПРАТЭСТУЮ!**



# CDчка

## СЛУХАЙ СВАЁ

А. Лёсік, В. Пазьнякоў

**16 найлепшых альбомаў па вэрсіі 2003 году.
Гэта ня збор абавязковых для праслухоўваньня рэлізаў, а ўсяго толькі сьпіс музыкі, якую слухаем мы.
Як і ты.**




### BLUR

**THINK TANK**
Лягічны і высокатэхналягічны працяг брыт-попу. Каб стварыць апошні, Blur зрабілі ўсё, чаго рабіць было нельга ні ў якім выпадку. Пісаліся ў Марока, прадусарам запрасілі Фэтбой Сьліма, турнулі гітарыста, абаяльнага рэтраграда і сябрука Грэма Коксана. Папярэдзілі альбом сынглам "Don't Bomb When You're A Bomb", забыўшы самаідэнтыфікавацца. Ня дзіва, што фанаты ўсё-ткі здагадаліся, чыіх рук гэтая справа. "Брыт-поп не памёр... Я - гэта брыт-поп", - кажа Дэйман Элбарн. Але спатрэбіўся цэлы "навукова-дасьледчы цэнтар" (гл. назву), каб рэанімаваць славу Blur і бляск брытанскага стылю.




### MADONNA

**AMERICAN LIFE**
Сорак пяць год ёй спатрэбілася, каб зразумець, якая яна дура, і асьмеліцца прасьпяваць пра гэта ("I'm So Stupid"). Мы ёй ня верым. Калі ўжо гэтая stupid, то ўся астатняя жаночая эстрада прэтэндуе максымум на IQ48. (Дарэчы, IQ Мадоны - больш за 140. American Life вам больш спадабаецца, калі вы раней не задумваліся над гэтым фактам.)
Варта было б ёй больш давяраць свайму густу і абыйсьціся без шматлікіх "Jesus Christ" ды "fuck it" у тэкстах - гэта ўжо чулі ад яе неаднойчы. Тым ня менш насьцярожвае, што пра "фак" яна сьпявае дзеля прыгожага слоўца, а пра Джызэза - на поўным сур'ёзе. Раней, здаецца, было наадварот. Няўжо гэта і ёсьць бальзакаўскі ўзрост?



### BASEMENT JAXX

**KISH KASH**
Хвала і гонар лёнданскаму дуэту: яны нагадалі, што funky - гэта "сэксуальны", а house - ня "хатні". Спэцпрэмія за кастынг запрошаных артыстаў - гарластыя вакалісткі, якія сьпяваюць не за рок-карону і не за залаты вянок з рук Мансэрат Кабалье, а каб нармальныя мужыкі, паслухаўшы, захацелі давесьці сваіх дзевак да такога самага экстазу, салодкай гістэрыкі і трымценьня голасу. З трыюмфам вітаймa постпанк-дзіву Siouxsie Sioux - дзіўную дзеўку зь дзіўнай харызмай. Загалоўная песьня ў яе выкананьні мае толькі адзін сур'ёзны недахоп - яе амаль немагчыма выкінуць з галавы без хірургічнага ўмяшаньня.




### WZ-ORCHESTRA

**ПАРАВІНЫ ГОДУ**
Якое гэта шчасьце, што ў Беларусі няма шансону! Калі б ён быў, то нечым нагадваў бы апошні твор Вайцюшкевіча. Ён быў бы добра сыграны - з гармонікамі, трубамі і скрыпкамі. Яго лірычны герой калі б і ўзгадваў Сібір ці Салаўкі, то праз цытаваньне Ўладзімера Жылкі і Францішка Аляхновіча.
Дарэчы, малабюджэтны беларускі шансон нагадваў бы "Цацачную краму" - эстраднае сынтгучаньне і вострасацыяльныя тэксты. Таму ня раім тым, хто стаўся шчырым прыхільнікам WZ, іськці да яго ў пасьлядоўнікі. А раптам той самы шансон і атрымаецца?



## RADIOHEAD

### HAIL TO THE THIEF

Гэта ўжо шостая радыё-Афіна, якая нарадзілася з радыё-галавы радыё-Юпітэра сучаснай музыкі. Старэйшыя: дзетачка-кветачка Pablo Honey, The Bends з тварам Франкенштэйна і душой анёла, вундэркінд OK Computer, заплянаваны Kid A і незаплянаваны байструк Amnesiac.

У кожнай прыстойнай сям'і павінен быць вырадак. Radiohead такога пакуль не нарадзілі. Таму з кожным новым альбомам крытыкі чакаюць яго, каб высьмяяць і абвінаваціць у творчым клімаксе. Узяўшы ад The Bends драйв, ад Kid A - тагасьветнасьць, зь невядомай крыніцы - яшчэ пару геніяльных мэлёдыяў, Hail To The Thief, нібы жонка Цэзара, застаецца безь ніводнага папроку.



## WHITE STRIPES

### ELEPHANT

Джэк + Мэг. Гітара + бубны. У суме - чатыры. Чатыры альбомы “зорнай” паводле статусу і “паласатай” паводле назвы каманды з Дэтройту. Фэномэн гаражнага року з Дэтройту вытлумачыць няпроста. Можа, справа ў вялікай колькасьці гаражоў у горадзе General Motors?

Чацьверты альбом, відаць, быў напісаны ў самым выкшталцона брудным з гаражоў на інструмэнтах, зробленых яшчэ пры жывым Кэнэдзі. Гэта рытм-энд-блюз, якім ён быў 40 гадоў таму, пакуль яго імем не назвалі танную амэрыканскую эстраду.

Экранізацыям песень “Seven Nation Army”, “In The Cold Cold Night”, “The Hardest Button to Button” - адпаведна 1-е, 2-е і 3-е месцы ў альтэрнатыўным відэа гіт-парадзе'03.




## MASSIVE ATTACK

### 100TH WINDOW

Тыя, хто падсеў на трып-хоп дзякуючы Mezzanine, хацелі чагосьці большага, хутчэйшага і глыбейшага. На жаль, менавіта яны засталіся расчараванымі. Тыя, хто і раней “варыўся” ў адпаведнай тусоўцы, сваё задавальненьне атрымаюць напоўніцу. Дзеля іх MA падаюць на стол усе традыцыйныя дэсэрты: басы, што гудуць як чмялі, безабаронныя жаночыя вакалы (напрыклад, Шынэд О'Конар, ды і Дэйман Элбэрн падпявае). Толькі няма гітоў. Але ёсьць настрой - мэлянхолія для тых, хто любіць засынаць пад музыку.



## DANDY WARHOLS

### WELCOME TO THE MONKEY HOUSE

Калісьці іх палюбілі за малады геданізм ды заліхвацкі гітарны саўнд і, нягледзячы на амэрыканскае паходжаньне, запісалі ў брыт-поп. Тады брыт-поп камандам шмат што дазвалялася (напрыклад, праслаўіцца песьняй “Disco 2000”, як Pulp). Хто ж мог тады прадбачыць, што ў 2003 годзе DW закінуць гітары куды падалей і будуць трызьніць лянівым сынтэзатарным гукам, выклікаючы настальгію па synth-pop 1980-х нават у тых, хто ніколі ня чуў такога.








## ВІЗА N.R.M.

### ТРЫБ'ЮТ

Нешта тут ня так. Не хапае Depeche Mode з арыгінальнай вэрсіяй, напрыклад, “Пакуль не пачнецца вайна”. Ды і Goran Bregovich - скаціна, не прыехаў у падпеўкі “Крыві” ды Pete Paff. Непрыемна зьдзівіла Britney, якая магла б зашарашыць пра Галілея і Боба Марлея лепей за “Краскі”. Па ўсіх прычынах ты не чакай - сюрпрызаў ня будзе. Праект не разбурае ніводнага стэрэатыпу - самыя вясёлыя ў нас па-ранейшаму “Тяни-Толкай”, Partyzone - гэта Rammstein, лепшая пявуля - Вэраніка, а нашую электроніку мы нікому не пакажам (Angry Rose 2000 - не паказчык).

Што радуе: пасьля гэтага трыб'юту ўжо немагчыма аспрэчыць наяўнасьць у нас супэргурта. Нават тыя эстэты, што адмаўлялі N.R.M. у музычных здольнасьцях і добрым гусьце, праслухаўшы тое-сёе зь “Візы”, зразумеюць, што ўсё магло быць нашмат горай.




## THE BEATLES

### LET IT BE... NAKED

З часу выданьня “Let It Be” прайшло 33 гады. Іх Езусу хапіла на многае. Што сталася з нашымі героямі? Філ Спэктар, экстравагантны прадусар Let It Be-1, арыштаваны і падазраецца ў забойстве. Пол МакКартні сыграў-такі на Чырвонай плошчы. Джон і Джордж сьвінгуюць у нябёсах. А ў музычных крамах зьяўляецца “Let It Be... Naked”. “Вы ўпершыню пачуеце сапраўдны, “голы” “Let It Be”, - запэўнівае МакКартні, - усё гучыць так, як гучала ў студыі”. І нават больш: альбом ня проста рэмайстраваны, але і перапрадусаваны. А гэта ўжо прэцэдэнт.

Уявіце сабе, як праз 500 гадоў будзе гучаць OK Computer, раскладзены на 800 000 гукавых каналаў. “Усё гучыць так, як гучала ў галаве сэра Тома Ёрка”, - запэўніць далёкі нашчадак.



## 5'NIZZA

### ПЯТНИЦА

“It's Friday I'm In Love”, - сьпяваў калісьці пан Сьміт з The Cure. Мабыць, ён паспрабаваў уявіць сябе Рабінзонам. Зараз яго несьвядома цытуюць усе нашыя растаманы - у іх зьявіўся новы кумір, здольны ўключыць у адзін дэбютнік 18 гітоў. Яму дастаткова гітары і голасу, каб зьмесьці гукавым драйвам усё шмацьцё рокапопсу і укр-попу, якія ўжо ня могуць існаваць без фармату як бяз штучнай ныркі. Галоўная прыкмета народнага прызнаньня - калі твой дэбютны альбом дзякуючы піратам зьяўляецца без твайго ведама.




## MOGWAI

### HAPPY SONGS F/OR HAPPY PEOPLE

Хто яны - шчасьлівыя людзі ці шчасьлівыя песьні? Пост-рокеры ці рок-постэры? Гэтых загадкавых і нясьпешных, як Лахнэская пачвара, шатляндцаў можна рэкамэндаваць у якасьці менш цяжкага наркотыку для тых, хто пакутуе на амнэзіякальную дэпрэсію.

Калі здарыцца глябальная ядзерная зіма, у музыкаў ня будзе часу і магчымасьці запісаць саўндтрэк да гэтай вялікай падзеі. А вось Mogwai загадзя паклапаціліся!..




## KRAFTWERK

**TOUR DE FRANCE**

"Толькі фабрыка ў маім акне будзе жыць у летаргічным сьне..." Так можна было ахарактарызаваць стан першапродкаў электронікі цягам апошніх 12 гадоў. Прачнуўшыся, працаўнікі "сілавой фабрыкі", то бок "электрастанцыі", шакавалі ўсіх. За дзесяцігодзьдзе іх адсутнасьці абсалютна нічога не зьмянілася. Няўжо Kraftwerk спадзяюцца, што з тых, хто памятае Tour De France-1983, тэма зь якога перапрацаваная тут аж тры разы, у жывых нікога не засталося?




## EVANESCENCE

**FALLEN**

Памятаеце шчасьлівыя тварыкі мэталераў у каротkіх камуфляжных штоніках, калі Санта прынёс ім [hybrid theory]? Зараз надыйшла чарга дзяўчынак.
У Amy Lee шыкоўныя валасы, якія можна мыць без шампуню на дне глыбокага мора, як у кліпе, і не па гадах моцны і эмацыйны вакал. Лепшая праява nu-gothic - гэта сапраўды нашмат больш прыстойна за горшыя праявы nu-metal. Але ня варта спадзявацца, што зь яе вырасьце новая Diamanda Galas.
Разумныя дзеткі слухаюць стылі з прыстаўкай neo-, самотныя - з post-, а паслухмяныя - з прыстаўкай nu-.




## ЛЯПІС ТРУБЕЦКОЙ

**ЧЫРВОНЫ КАЛЬСОНЫ**

Шкада, што Міхалок усё-ткі жывы чалавек. Калі б яго не існавала, можна было б сказаць: "О, нашыя Gorillaz!" Міхалок, як і тыя, часам бывае мульцяшны, а яго бульба-рэгей сапраўды ня горшы за "Clint Eastwood". Калі пакінуць па-за ўвагай "Вэб-дызайн" J_Mors, што па працягласьці цягне на мініальбом, то гэта - безумоўна лепшы беларускі "самотнік" 2003 году.
Хоць бы таму, што ў сваёй катэгорыі ён сапраўды самотны.




## УЛІС

**ЛЮСТЭРКА**

"Улісы" памаладзелі. Яны ад душы малоцяць у бубны ды па струнах, брыдкасловяць і не баяцца, расправіўшы плечы, на ўсю моц галасіць у мікрафон. З той самай творчай маладосьці вярнулася і адчуваньне рытму - раней былі "Танцы на даху", зараз - "Звар'яцелы танцор".
Калі параўнаць "Падарожжа" 1999 году і яго ж рэінкарнацыю 2003, то паводле лёгікі рэчаў даты іх рэлізаў мусілі памяняцца месцамі. Сярод дыназаўраў року прынята, дасягнуўшы сталасьці, паціху шліфаваць тэхніку і губляць голас. Наш дыназаўр гераічна рэгрэсуе ў галасістага і рухавага маладзёна ў цішотцы "Coal Chamber".
Толькі грацць ніяк не развучыцца.

ДЗЯКУЙ КАМПАНІІ "WEST RECORDS"
(ПЭРСАНАЛЬНА ДЗЬМІТРУ БЕСКАРАВАЙНАМУ
І ВОЛЬЗЕ ПРАКОП'ЕВАЙ ЗА САДЗЕЯНЬНЕ), АСАБЛІВЫ ДАНКЭ ШЁН ВІТАЛЮ СУПРАНОВІЧУ.








лепшы advertising-тэкст году

# ЭКСПЭРЫМЭНТЫ-ЛЁНДАН-МОДА



Маша Раневіч

**Касмэтыка - гэта lifestyle. Сёньня ты на тусе з панкамі, заўтра на моднай вечарынцы, пазаўтра - проста дзіўная дзяўчына, на якую азіраюцца на вуліцах. Унутранае адчуваньне зьмяняецца разам з колерам. Разам з адценьнямі касмэтыкі RIMMEL.**

**Гісторыя прыгажосьці**

Напачатку XIX ст. дзівак і арыгінал Юджын Рымэль вырашыў паэкспэрымэнтаваць з колерамі і пахамі. Па ўсім сьвеце падарожнічаў у пошуках экзатычных інгрыдыентаў і незвычайных рашэньняў. Насуперак правілам і традыцыям, упершыню ў якасьці касмэтычных кампанэнтаў былі выкарыстаныя вадкасьць для паласканьня ротавай поласьці, араматызаваная памада для валасоў і іншыя рэчы. Уласнае бачаньне сьвету, адсутнасьць "жалезных" правілаў і не зусім сур'ёзны падыход да жыцьця дапамаглі стварыць сп. Рымэлю імпэрыю прыгажосьці.

Пасьля яго сьмерці ў 1887 годзе ўсе напрацоўкі перайшлі да ягоных сыноў. Праз пэўны час пра Рымэляў загаварылі, і напачатку новага стагодзьдзя фантазіі бацькі былі ператвораныя ў пасьпяховы бізнэс. Другое нараджэньне RIMMEL падарылі экстрафатограф Дэвід Сімс і дваццацімільённая супэрмадэль Кейт Мос. Яна была першай сярод гэтак званых waif models, вечных падлеткаў у стылі ўнісэкс, у правакацыйным міксе з сэканд-хэнду і прэт-а-партэ. Кейт - "модная ікона 1990-х", твар "пакаленьня X" - цалкам адпавядала мары RIMMEL. А таму стала яе тварам.



**Адбіткі лёнданскіх вуліц**

Радзіма маркі - Лёндан. Атмасфэрай яго вуліц насычаныя ўсе калекцыі RIMMEL. Але гэта не кансэрватыўны Лёндан з паштовак - гэта мультыкультурны, альтэрнатыўны мэгаполіс, дзе новыя кірункі моды нараджаюцца адразу на вуліцы, дзе нічога нікога не зьдзіўляе. London look! Get it on! Выглядай як Лёндан! Заяві пра сябе! - сьлёган маркі, які штурхае прыхільнікаў на экспэрымэнты. Калі хочаш выглядаць дамачкай з офіса, гэта не для цябе. Мы - вуліца, энэргічная, дасьціпная, свабодалюбівая і модная! RIMMEL разбурае стэрэатып штучнасьці, бліскучага зьнешняга выгляду і ўсе астатнія правілы. Касмэтыка адмыслова для маладых: лёгкасьць нанясеньня, нізкі кошт і высокая якасьць.

**Восень-зіма 2003: Tribal punk**

У гэтым сэзоне дызайнэры і мадэльеры канстатуюць вяртаньне 1960-х: бунтарства і маладосьць, зьмяшэньне новага і старога. Таму вытанчанасьць і трэш - тое, што трэба.

Твой self made вобраз абавязкова ня ўпісваецца ў агульнапрынятыя рамкі. Статкавыя і першабытныя матывы (уплыў "Валадара пярсьцёнкаў") даюць адчуваньне індывідуальнасьці і прыналежнасьці да пэўнага грамадзтва ці клану. У грубай вопратцы кельтаў-сялянаў, з вогненна-аранжавай ці распалена-чырвонай афарбоўкай, з карычнева-шэрымі адценьнямі.

Да чаго тут RIMMEL? Гэтая касмэтыка сваімі адмысловымі сродкамі ажывіць асацыяцыі, зьвязаныя з вогнішчам, першаснай індывідуальнасьцю, дынамікай і мастацкім бязладзьдзем.

І ніякага канфармізму! Гэта **RIMMEL.**

**Адкажы на пытаньні, запоўнены купон прынясі ў г/д "На Нямізе": стэнд RIMMEL, 2 паверх, з 13.00 да 19.00.**
**Дэдлайн - 23 лютага**
**Ты маеш усе шанцы атрымаць прыз ад RIMMEL.**

**1. Як даўно "ідал Вялікабрытаніі" Кейт Мос зьяўляецца тварам маркі RIMMEL?**

- З восені 2001
- Зь вясны 1968
- Хто такая Кейт Мос?

**2. Нестандартная фігура не перашкодзіла Кейт Мос стаць супэрмадэльлю. Якія vitals-памеры яна мае?**

- 90-60-90
- 60-90-60
- 84-58-89

**3. Дзьве рэчы, дзякуючы якім Кейт Мос лічыць Лёндан лепшым горадам у сьвеце:**

- Людзі і клюбы
- Піва і футбол
- Прынц Чарльз і яго новы сябар

Тваё імя ____________________
Твае кантакты ____________________

конкурс ад RIMMEL LONDON